www.nv-online.info – электронны дадатак да друкаванай версіі газеты «Народная Воля».

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*
***Якуб КОЛАС***

**№ 37 (4289)**

8 мая 2018 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

СІТУАЦЫЯ

## Ці дамовяцца маршрутчыкі?

*Рабочая група, створаная па рашэнні Савета па развіцці прадпрымальніцтва для ўрэгулявання напружанай сітуацыі, якая склалася на рынку міжгародніх пасажырскіх перавозак, падрыхтавала два сцэнарыі па пераадоленні канфлікту.*

Нагадаем, пярэпалах аж да страйку кіроўцаў, якія ажыццяўлялі “нерэгулярныя перавозкі” з аднаго населенага пункту ў другі, узнік з-за абноўленай рэдакцыі закона “Аб аўтамабільным транспарце і аўтамабільных перавозках”. “Нерэгулярщчыкі” ўбачылі ў папраўках у закон пагрозу іх выціснення з рынку буйнымі кампаніямі-перавозчыкамі і не выйшлі на рэйсы. Жыхары многіх гарадоў, у тым ліку Слуцка, Салігорска, Бабруйска, Турава, Ліды і іншых, не маглі дабрацца туды, куды планавалі.

Пакрысе сітуацыя выправілася, але праблема засталася.

Што прапануе рабочая група, каб яе вырашыць?

**Першы сцэнарый** распрацаваны на аснове прапаноў нерэгулярных перавозчыкаў.

Ён прадугледжвае поўную адмену конкурснай сістэмы размеркавання маршрутаў і пераход на паведамляльны прынцып работы перавозчыкаў. Прапануецца ўсталяваць двухгадовы пераходны перыяд, на працягу якога нерэгулярныя перавозкі пасажыраў могуць працаваць па ранейшых правілах, то бок выконваць нерэгулярныя рэйсы, як раней. Сцэнарый таксама прадугледжвае ўзаконіць дзеянне дыспетчарскіх служб, якія раней працавалі ў нерэгулярных перавозках, ствараць прыватных аператараў. Акрамя таго, прапанавана распрацаваць спрошчаныя ўмовы адкрыцця новых тэрміналаў і аўтастанцый.

Прадстаўнікі нерэгулярных перавозчыкаў лічаць, што названыя меры дазволяць ім максімальна хутка інтэгравацца ў прававое поле, якое рэгулюе рынак рэгулярных перавозак пасажыраў. У сваю чаргу рэгулярныя перавозчыкі заяўляюць, што такі сцэнарый ушчамляе іх інтарэсы.

У аснову **другога сцэнарыя** леглі прапановы рэгулярных перавозчыкаў. Гэты варыянт прадугледжвае захаванне конкурснай сістэмы пры размеркаванні маршрутаў і перагляд яе правілаў для забеспячэння максімальнай бяспекі перавозак. Прапануецца распрацаваць і зацвердзіць Палажэнне аб аператары аўтамабільных перавозак пасажыраў, адрэгуляваць працу інтэрнэт-рэсурсаў па пошуку спадарожнікаў, каб выключыць магчымасць вяртання да нерэгуляванага рынку перавозак. Пераходны перыяд, на працягу якога можна ажыццяўляць перавозкі без правядзення конкурсу, прапануецца абмежаваць 6–12 месяцамі.

Нерэгулярныя перавозчыкі заяўляюць, што рэалізацыя гэтага сцэнарыя нічога не зменіць на рынку пасажырскіх перавозак і пагоршыць і так цяжкую сітуацыю.

Канчатковае рашэнне, якое абагульніць прапановы і якое будзе перададзена ў Саўмін, рабочая група пакуль не прыняла. Кіраўнік групы, сустаршыня і дырэктар Саюза прадпрымальнікаў ім.Куняўскага **Жанна Тарасевіч** чэсна прызнаецца: *«Перад намі няпростая задача. Мы бачым пэўны канфлікт інтарэсаў паміж прадстаўнікамі сектараў рэгулярных і нерэгулярных пасажырскіх перавозак. Зараз спрабуем знайсці кампраміс”.*

БЛІЦ-КАМЕНТАРЫЙ

### Міхаіл КОРШЫКАЎ, міжгародні аўтаперавозчык: «Машыны прыйдзецца распрадаць, людзей звольніць...»

*Індывідуальны прадпрымальнік з горада Слаўгарада Магілёўскай вобласці Міхаіл Коршыкаў ажыццяўляе перавозкі пасажыраў па маршруце Слаўгарад–Магілёў–Слаўгарад як «нерэгулярщчык». У яго ёсць невялікі парк – чатыры мікрааўтобусы. Ён лічыць, што канчатковы варыянт будзе на карысць рэгулярных маршрутчыкаў і яму прыйдзецца развітацца са сваім бізнесам.*

– На мой погляд, усё даўно вырашана, – *лічыць Міхаіл Коршыкаў*. – Пазіцыя Мінтрансу, транспартнікаў на месцах адназначная: усе павінны ісці ў «рэгулярку», працаваць па новых правілах. А дыскусія, якая ідзе, – гэта каб ствараць бачнасць дэмакратыі… Многія мае калегі ўжо здаліся і перайшлі ў рэгулярныя перавозкі. А калі б упёрліся, не пабаяліся адстойваць свае інтарэсы, можа, усе разам і выстаялі б. Але народ наш баязлівец...

У буйных гарадах, такіх як Мінск, Магілёў, Бабруйск, Кобрын, Маладзечна, калі ажыццяўляюцца рэйсы на вялікія адлегласці, працаваць у рэгулярных перавозках можна. А ў невялікіх, як Слаўгарад, – нявыгадна. Я буду несці такія ж выдаткі, як і яны, але заробкаў такіх мецць і блізка не буду. Мы ж пачыналі з таго, што спрабавалі працаваць у рэгулярных перавозках. Але не пацягнулі выдаткі і перайшлі ў нерэгулярныя.

Я пакуль працую на свой страх і рызыку, як і працаваў. Але працую толькі праз заказчыкаў. Калі прымуць рашэнне не на нашу карысць, пайду займацца пасажырскімі перавозкамі ў таксі. Машыны прыйдзецца распрадаць, людзей звольніць…

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

# 1941 - 1945



# Іх перамога!

**Шкада, што з тых, хто за яе змагаўся ў той жудаснай вайне, толькі нямногія дажылі да сённяшніх дзён. Схілім галовы перад мужнымі абаронцамі Айчыны!**



ІХ ДЭМАКРАТЫЯ

## На чацвёрты тэрмін

Учора ў Маскве адбылася інаўгурацыя **Уладзіміра Пуціна** – ён у чацвёрты раз стаў прэзідэнтам Расіі.

У гэты ж дзень ён вызначыўся з кандыдатурай прэм’ера. Сёння, 8 мая, ніжняя палата Дзярждумы разгледзіць пытанне аб зацвярджэнні на гэтую пасаду… **Дзмітрыя Мядзведзева.**

Колькі жартаў, анекдотаў складзена пра гэту парачку. Цікава толькі, чым усё скончыцца…



ПРЯМАЯ ЛИНИЯ

## Как помочь своим сосудам?

Малоподвижный образ жизни, избыточный вес, стоячая или сидячая работа, стрессы – все это не лучшим образом отражается на сосудах.

***Что делать, если на ногах появились «звездочки»?***

***Чем опасны судороги и отеки ног?***

***Как распознать развитие варикозной болезни?***

***В каких случаях показан компрессионный трикотаж?***

***Какие методы лечения варикозной болезни предлагает современная медицина?***



На эти и многие другие вопросы читателей ответит хирург медицинского центра «ЛОДЭ» **Владимир Николаевич ПАВЛЕНКО.**

Звоните в среду 16 мая с 14.00 до 16.00 по телефону **328-68-41**.

Присылайте свои вопросы заранее по почте или на электронный адрес: **nvonlineinfo@gmail.com** с пометкой **«Прямая линия»**.

СУМНАЯ ВЕСТКА

## Пад Гомелем пахавалі маці Героя Украіны беларуса Міхаіла Жызнеўскага

*61-гадовая Ніна Жызнеўская памерла ў гомельскім шпіталі інвалідаў вайны 4 мая. 8 красавіка сканаў яе муж, Міхаіл Жызнеўскі-старэйшы.*

Арганізацыю пахавання – як Міхаіла Жызнеўскага, так і Ніны Васільеўны – узяў на сябе грамадскі актывіст Барыс Анікееў. У сям’і засталася сястра Героя Украіны Наталля.

Адпявалі памерлую ў праваслаўнай царкве Аляксандра Неўскага. Ушанаваць памяць маці Жызнеўскага прыехалі прадстаўнікі ўкраінскага дыппрадстаўніцтва.

Першы сакратар Пасольства Украіны Іван Башняк выказаў Наталлі Жызнеўскай глыбокія спачуванні. *«Разам з вамі падзяляем смутак і страту. Цяжка дачцэ праводзіць сваю маці ў апошні шлях. Але яшчэ цяжэй было маці выпраўляць свайго сына Міхаіла ў апошні шлях. Тыя няпростыя моманты жыцця, магчыма, і адбіліся на здароўі Ніны Васільеўны. Мы схіляем галаву перад маці героя Украіны за тое, што яна нарадзіла годнага сына. Спі спакойна, дарагая Ніна Васільеўна, хай зямля табе будзе пухам, а памяць – вечнаю. Слава Украіне!»* – сказаў дыпламат.

**Алена ГЕРМАНОВІЧ, БелаПАН.**

ТОЧКА ЗРЕНИЯ



Александр ФЕДУТА

# Щеткины байки

Заместитель председателя Совета Республики **Марианна Щеткина** возглавила женский байк-парад. Могу лишь позавидовать тому, как выглядит эта женщина (год рождения можно посмотреть в справочниках, но пенсию она уже должна получать – если считать до введенной при ее участии пенсионной реформы), байк-парад, как она держится, а также тому, что она умеет ездить на мотоцикле.

Для тех, кто не знает: «байк» – это мотоцикл. Причем недешевый. Дешевый мотоцикл «ИЖ» выпуска 2018 года с пробегом в 4000 километров стоит (в Ивье) всего 445 рублей. То есть пенсионерка, получающая пенсию 314 рублей (средний размер пенсии в нашей стране в феврале 2018 года), может позволить себе купить «ИЖика» за полтора месяца – при условии, что не будет ходить в спа-салоны, в спортзал, не будет оплачивать свой персональный коттедж (его ведь отопить надо – но на то и лето, чтобы сэкономить), а также сядет на жесткую диету и откажется от лекарств. Всего ничего.

До того как стать вторым лицом верхней палаты белорусского парламента, Марианна Акиндиновна работала министром труда и социальной защиты. Именно она научно обосновывала и прожиточный минимум в нашей стране, и минимальную потребительскую корзину, и размер пенсии. То есть, конечно, не она лично обосновывала – но ведомство под ее руководством. Сегодня минимальная потребительская корзина белорусского пенсионера стоит 331 рубль 82 копейки. Причем транспортные расходы в ней составляют (вместе с бытовыми услугами и связью) 8,9%. Ладно, плюнем на связь и бытовые услуги – отдадим все на транспорт (байк – это ведь не роскошь, а средство передвижения, как говаривали классики). Таким образом, доля байка в бюджете нашей воображаемой пенсионерки (условной Марианны Нещеткиной) составляет примерно 29 рублей 53 копейки. То есть копить на «ИЖика» она будет всего 15,06 месяца. Год и квартал – всего ничего. Телефон при этом она отключила, в общественном транспорте не ездит, на дачу бредет от Минска в Столбцовский район на своих двоих.

Однако не будем оскорблять бывшего министра труда и социальной защиты подозрением в том, что она возглавила байк-парад на мотоцикле «ИЖ». Красивая женщина на «ИЖе»? Представит же такое чье-то вконец испорченное воображение. Подыщем не в Ивье, а в Минске мотоцикл, причем представительского класса.

Ну, например, популярный во время нашей с Марианной Акиндиновной зрелости «Харлей-Дэвидсон». Harley-Davidson CVO, 2014 года выпуска, нулевой пробег. Достойная уважения машина. Сядет женщина – и сразу почувствует себя свободной: «драйв, свобода, дорога – то, что объединяет сегодня девчат», усевшихся на дорогостоящие байки вместо того, чтобы пугать «ИЖа», простите, высокой скоростью. Свобода! – чего еще заслуживает один из авторов трижды переписывавшегося впоследствии пресловутого «декрета о дармоедстве»?

Одна незадача. Ни одна наша тетка «Харлея» того не оседлает, если не заплатит за него 57 тысяч 667 белорусских рублей. И если госпожа Щеткина позволила себе (вдруг предположительно – да?) его все-таки оседлать, то, значит, она честно его заработала. У меня, по крайней мере, сомнений в этом нет.

Но я вспомнил сцену из мемуарной книги покойного Василия Севостьяновича Леонова «Работа над ошибками». Как к нему, менее чем за год до того назначенному министром сельского хозяйства и продовольствия, пришла вдова Федора Анисимовича Сурганова, кавалера пяти орденов Ленина, погибшего в автокатастрофе в 1976 году (то есть за восемнадцать лет до этой встречи) председателя Президиума Верховного Совета БССР. У вдов бывших руководителей республики как раз отобрали дачи, оставленные за ними в пожизненное пользование, и дали какую-то новую, неухоженную делянку земли. Она пришла попросить, чтобы министр дал указание директору совхоза, которому имя Сурганова, вероятно, ничего не говорило, привезти на ту делянку машину навоза. Я помню фразу в леоновских мемуарах: «Она была одета в чистый кримпленовый костюм».

Прочел тогда эту фразу – и вздрогнул. Я помню кримпленовый костюм, пошитый моей матерью в 1978 году, когда ей вручали орден Трудового Красного знамени. Кримплен – такой материал, считавшийся шикарным, а сейчас позабытый всеми. Идя на прием к министру, вдова бывшего руководителя республики, человека, заслуги которого были отмечены высокими правительственными наградами, фронтовика, надела самый дорогой из бывших у нее нарядов, который вышел из моды за полтора десятка лет до того.

Я не представляю себе ее на байке. Да и мать свою не представляю. Время было другое. Это было поколение, которому уж точно было не до байков. Как и соседке-пенсионерке, вынужденной работать в «Европте» уборщицей, чтобы свести концы с концами. Как и покойной моей теще, воспитательнице детского сада, дважды избиравшейся депутатом местного Совета – в советские еще времена. Другое поколение.

И Марианну Щеткину с ее байком я никак не осуждаю. Действительно – может себе позволить. Судя по размеру минимального потребительского бюджета в стране и средней пенсии – да, честно заработала. С ветерком.

СВЯТОЧНАЯ ПРАГРАМА

## Бітва за Берлін і святочны салют

*Куды пайсці ў Мінску ў Дзень Перамогі?*

Урачыстыя і святочныя мерапрыемствы, прысвечаныя чарговай гадавіне Вялікай Перамогі, пройдуць па ўсёй Беларусі. Эпіцэнтрам святкавання традыцыйна стане горад-герой Мінск.

Святкаванне распачнецца ў 11.00 ля манумента Перамогі на аднайменнай плошчы, дзе цягам гадзіны да яго можна будзе ўскласці кветкі.

На пляцоўцы ля сталічнага Палаца спорту святочныя мерапрыемствы будуць праходзіць з 10.00 да 23.00. Тут разгорнецца кірмаш з сувенірамі і прысмакамі і выстава "Горад майстроў". Тут жа пройдзе святочны канцэрт.

У парку Перамогі ў 11.00 распачнецца Забег адважных – спаборніцтвы на дыстанцыі з перашкодамі. А ў 12.00 на пляцоўцы ля фантана-амфітэатра на праспекце Пераможцаў пройдуць спаборніцтвы асілкаў.

Спецыяльная святочная праграма запланавана 9 Мая і ў Верхнім горадзе беларускай сталіцы.

На "Лініі Сталіна" таксама запланавана праграма, прысвечаная Дню Перамогі. Наведвальнікаў чакае вайскова-гістарычная рэканструкцыя "Бітва за Берлін", тэматычная выстава і магчымасць пакатацца на танку. Уваход на мерапрыемства платны – ад 7 да 20 рублёў.

Завяршыцца святочны дзень канцэртам "Плошча Перамогі – 2018", які пройдзе на аднайменнай плошчы, і святочным салютам з 30 залпаў.

**Антон ВІТАЛЬЕЎ.**

ЧУЛІ?

## Зарплата вырасла на 0,7%, а кошт мінімальнага набору прадуктаў – на 7,7%

Як вядома, у маі мінулага года ў Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі была створана рабочая група па маніторынгу цэн на сацыяльна значныя тавары і паслугі.

У снежні 2017-га камісія шакіравала інфармацыяй аб тым, як за паўгода ў Беларусі выраслі цэны на некаторыя прадукты. Аказалася, што кошт салаты аліўе, які складаецца з простых інгрэдыентаў– бульбы, яек, каўбасы, агуркоў і г.д., – павялічыўся ажно на 12%! Праўда, прафсаюзнікі гэты скачок цэн звязалі тады з надыходзячымі навагоднімі святамі.

Аднак нядаўна з'явілася інфармацыя аб маніторынгу цэн за перыяд з жніўня 2017-га па люты 2018 года. Аказваецца, за гэты час сярэдняя зарплата ў Беларусі павялічылася на 0,7%, а кошт мінімальнага набору прадуктаў харчавання, якія ўваходзяць у спажывецкі кошык, вырас на 7,7%! За гэты ж перыяд падаражэлі і паслугі.

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**



АКТУАЛЬНАЯ ТЕМА

# Юрий ПАШИК: «Глупо верить в страшилки коридорных шептунов»

*С 1 июля 2018 года в Беларуси вступают в силу национальные требования по энергоэффективности для бытовой техники и электроники.*

*Чего ждать простым белорусам от этого нововведения? Взлета цен на электротехническую продукцию? Новых скандалов с Россией, откуда чаще всего на наш рынок поставляется недорогая продукция из Китая? Или, наоборот, высокие стандарты сделают нашу жизнь проще и безопаснее?*

*Об этом и не только «Народная Воля» расспросила директора ОАО «Испытания и сертификация бытовой и промышленной продукции «Беллис»* ***Юрия Пашика.***



– Мы пять лет готовились к этому шагу, причем весьма основательно, – *напоминает Юрий Пашик*. – В создание инфраструктуры инвестирован не один десяток миллионов долларов. Мы обучили специалистов, усовершенствовали нормативно-техническую документацию, разработали стандарты и внедрили их на предприятиях. В Государственном институте стандартизации и сертификации созданы самые современные лаборатории по широкой группе продукции. Сейчас обязательные требования для допуска товаров на рынок вводятся для восьми групп продукции – свет и освещение, стиральные машины, холодильники, газоэлектрические панели для приготовления пищи, телевизоры и мониторы, печи СВЧ, а также для другого оборудования, работающего в режиме ожидания.

Мы подсчитали, какая может быть экономия энергии от замены продукции на энергоэффективную. Цифра весьма внушительная – около 20 процентов от всего потребления в стране! Это колоссальный экономический и социальный эффект для страны. При этом введение стандартов будет тормозить поток разного технического хлама, который сейчас все еще присутствует на нашем рынке.

**– Когда два года назад наше правительство приняло решение о введении новых стандартов, разразился большой скандал. Российские торгаши и поставщики обвинили Беларусь в создании торговых барьеров на рынке ЕАЭС…**

– По первой редакции постановления эти требования действительно должны были действовать с 1 февраля 2017 года. Но приняли компромиссное решение – сместили сроки. С 1 сентября прошлого года заработали национальные стандарты по энергоэффективности для электродвигателей и внешних источников питания. Надо заметить, страна этот период прошла абсолютно без проблем.

Требования для основной группы продукции вступят в силу через два месяца. Уже стартовала заявочная кампания: к 1 июля мы должны подтвердить (или не подтвердить), что их продукт соответствует установленным требованиям по энергоэффективности. Это непростая работа. Надо, чтобы все импортеры и национальные производители чувствовали себя на рынке спокойно и уверенно.

**– Если не ошибаюсь, в ЕАЭС была запланирована разработка техрегламента** ***«О требованиях к энергетической эффективности энергопотребляющих устройств».*** **Когда он вступит в силу, национальные требования будут отменены, верно?**

– Верно. Трижды финансировали разработку этого регламента, трижды деньги успешно осваивались. Но документа до сих пор нет! В этом смысле мы опережаем наших партнеров.

Кстати, ответственной за разработку была и остается российская сторона. При этом дело доходило до абсурда! Абсолютно неподготовленный документ пытались принять под предлогом того, что, мол, там нет принципиальных аспектов, поэтому примем, а потом доработаем. Госстандарт Беларуси сказал на это категоричное «Нет!».

Дело в том, что, как только принимается общий регламент, определяется так называемый переходный период – с даты его принятия до даты уже окончательного вступления в силу. Как правило, на это уходит два-три года. И в переходный период не работают никакие требования. Полгода была мышиная возня, но регламент так и не приняли. И когда Беларусь заявила о введении национальных требований, активизировалось российское торговое лобби, для которого – деньги любой ценой!

В течение прошлого года Госнадзор провел масштабную работу по мониторингу и контролю качества электротехнической продукции на рынке Беларуси. Выводы поражают: 75 процентов хлама, который успешно поставляется в Беларусь и продается в магазинах, получает право на реализацию благодаря… российским сертификатам.

Происходит удивительное дело! Мы внимательно следим за нашим торговым балансом и говорим, что надо его каким-то образом диверсифицировать, но у нас есть серьезная привязка к российским энергоносителям. А тут мы огромные валютные ресурсы вымываем из страны, покупая электротехнический хлам и продавая его в магазинах. Речь о миллиардах долларов!

Беда в том, что большинство техники, которую мы видим в наших магазинах, как правило, китайского производства. Наш бизнес и промышленные предприятия никогда не будут думать о том, чтобы что-то подобное производить самим – не пройдут соотношение цена–качество. Получается, мы сами сели на эту иглу! И здесь, конечно, дурную службу сыграла кривая система единого техрегулирования ЕАЭС.

**– Был еще скандал, когда российские таможенники отказывались растаможивать грузы, не имевшие российский сертификат соответствия…**

– После этого, насколько я знаю, было принято совместное решение о недопустимости дискриминации сертификатов по национальному признаку, которое подписали пять вице-премьеров стран–участниц ЕАЭС. Тем не менее все равно где-то возникали проблемы – как факел, как вспышка, как напоминание бизнесу о том, что сертификат должен быть российский. И бизнес переориентировался! Все стали буквально за два часа покупать сертификаты соответствия в России. Но, как оказалось, почти 95 процентов российских сертификатов – фейковые! То есть по документам товар соответствует самым высоким современным требованиям, а на деле… Никто даже не проводил его испытаний!

В то же время Беларусь вводит свои жесткие требования, и получается, что мы ограничиваем этот продукт своим сертификатом в области энергоэффективности.

**– Не так давно вы провели семинар для производителей, поставщиков и продавцов бытовой техники и электроники** ***«Использование белорусских стандартов для подтверждения соответствия продукции требованиям энергоэффективности».*** **Слышала, аншлаг был – как на последних громких премьерах в Купаловском театре…**

– Действительно, семинар был особенным. Во всяком случае я в своей практике не помню, чтобы на рядовое обучающее мероприятие, которых мы всегда проводили большое количество, приехало столько заинтересованных персон из-за пределов Беларуси. И прежде всего – из России. Причем мы особенно и не рекламировали семинар – просто выложили информацию на сайте. И когда увидели количество зарегистрировавшихся, стали беспокоиться, что, видимо, маленький зал выбрали…

И мне понятен был этот интерес, ведь еще недавно российское лобби крупным мировым компаниям говорило: мол, не торопитесь, мы все равно в Беларуси все отменим.

Интерес был очень большой. Вначале я чувствовал некоторое напряжение, висящее в воздухе, а в конце мероприятия оно рассеялось. И самые ценные слова для меня были от одного из присутствующих: мол, было бы здорово, если бы все также качественно и профессионально делалось и в России.

Кстати, в России аналогичные требования для электротехнической продукции работают с 2011 года. Но они ввели их как-то по-особенному, без подтверждения соответствия. И теперь грозят нам: мол, если вы сделаете по-своему, то мы перекроем вам поставки мяса и молока на наш рынок. Дело дошло просто до прямых угроз.

**– Как думаете, есть веские причины снова отложить вступление в силу требований по энергоэффективности?**

– Нет. Тем более что наши производители ничем не рискуют. Тот продукт, который обладает высокими показателями по энергоэффективности, он по умолчанию современный и по другим аспектам.

А что касается различных страшилок, то, мне кажется, аффилированные люди в Беларуси просто пытаются отрабатывать деньги, которые получают в России от торговых компаний в том или ином виде… И наш совет таким «шептунам», обивающим пороги правительственных коридоров со своими страшилками, – подумать о людях (потребителях), а также об общих национальных интересах и приоритетах дальнейшего развития!

**– Кстати, о страшилках. Есть мнение, что после 1 июля вся техника резко подорожает…**

– Дороже быть не может. Потому что дороже уже некуда! Если бы вы знали, какую маржу имеет сегодня торговля, пока продукт доходит до нас! Российский поставщик, белорусский поставщик, интересы импортеров, наценки в магазинах – как минимум три уровня! По некоторой продукции маржа зашкаливает и лихо делится между торговым российским и белорусским бизнесом. Интересы покупателей здесь никто не учитывает. И все это знают. Обратите внимание, что в Польше или в Украине та же продукция стоит гораздо дешевле, но она гарантированно лучше по качеству! Не потому ли у нас без конца принимают решения об ограничении ввоза продукции из той же Польши? Люди же оттуда все везут – лампочки, технику.

А что касается подорожания, то я вообще удивляюсь, как при таких скромных доходах белорусов могут быть такие цены в магазинах! И ведь наши люди умудряются все покупать, а в ресторанах вечером не пробиться, и на море ездят, и такси пользуются… Для меня это такая приятная для души национальная особенность белорусского народа…

**Марина КОКТЫШ.**

КАДРЫ

## Па дамоўленасці бакоў

Менавіта з такой фармулёўкай з'явіўся ўказ прэзідэнта Беларусі аб вызваленні ад абавязкаў кіраўніка ўпраўлення Следчага камітэта па Гродзенскай вобласці генерал-маёра юстыцыі Іосіфа Леанко.

На гэтай пасадзе ён працаваў з 28 лістапада 2011 года.

ДАРЭЧЫ

## «Гэта фармулёўка сведчыць пра тое, што чалавек сышоў з пасады па сваёй волі ...»



У паведамленні прэсслужбы кіраўніка дзяржавы адзначаецца, што **Іосіф Леанко** *(на фота)* звольнены са службы *"з правам нашэння ўстаноўленай формы адзення і знакаў адрознення»*.

*– Гэта фармулёўка сведчыць пра тое, што чалавек сышоў з пасады па сваёй волі, з нейкіх прэтэнзій да яго няма,* – тлумачыць палітолаг, спецыяліст па праблемах бяспекі **Андрэй Паротнікаў**. *– А сысці ён мог па розных прычынах – па стане здароўя, па сямейных абставінах, знайсці іншую працу і г.д. У дадзеным выпадку «пагадненне бакоў» пацвярджае толькі, што Леанко сышоў да заканчэння тэрміну кантракта. Калі б здарыўся нейкі скандал, яго спачатку, хутчэй за ўсё, адхілілі б ад пасады з залічэннем у рэзерв альбо проста звольнілі.*

Іосіфу Леанко 52 гады. Ён родам з Іўеўскага раёна, выпускнік юрыдычнага факультэта БДУ. З 1992 года працаваў у органах пракуратуры. Да прызначэння ў 2011 годзе начальнікам упраўлення Следчага камітэта па Гродзенскай вобласці займаў пасаду намесніка пракурора Гродзенскай вобласці.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

В МИРЕ

## Европол впервые возглавила женщина



*Должность исполнительного директора Европола (Европейского полицейского агентства) официально заняла бельгийка* ***Катрин де Болль.***

Она сменила на посту британца Роба Уэйнрайта, мандат которого истек 1 мая. Мандат исполнительного директора Европола рассчитан на 4 года и может продлеваться только один раз.

48-летняя Катрин де Болль – юрист по образованию, была офицером жандармерии, а затем криминальной полиции.

В 2012 году она стала генеральным комиссаром Федеральной полиции Бельгии, став первой женщиной на этом посту.

ДЫЯЛОГІ

# Міхась СКОБЛА – Іван ДАНІЛАЎ

*9 мая Беларусь сустракае 73-ці Дзень Перамогі. Як тое ўжо сталася традыцыяй – з бравурнымі маршамі, з артылерыйскімі салютамі і бясконцай вайной на экранах БТ. У той жа час далёка не ўся праўда пра той складаны час стала ў нас здабыткам грамадскасці, нават у Музеі гісторыі Вялікай Айчыннай многія падзеі паказаны аднабока.*

*Сваім поглядам на вайну з журналістам "Народнай Волі" дзеліцца былы партызан, франтавік, доктар медыцынскіх навук, прафесар Іван Пятровіч Данілаў.*

# «Лепш за Быкава пра вайну не сказаў ніхто…»

## «Мы, салдаты і афіцэры, 9 мая радаваліся, а вось латышы – не»

**– Іван Пятровіч, вашы франтавыя дарогі вымяраюцца тысячамі кіламетраў. А дзе вы сустрэлі Перамогу? Чым вам запомнілася 9 мая 1945 года?**

– Той дзень мне добра памятаецца, я сустрэў яго ў Рызе. На тэрыторыі Латвіі была вялікая нямецкая групоўка. Акружаная з усіх бакоў, яна доўга не здавалася ў палон, і толькі 8 мая падняла рукі ўверх. Мы, салдаты і афіцэры, 9 мая радаваліся, а вось многія латышы – не. Мне гэта таксама добра запомнілася.

Мяне таксама ўразіла, што да нямецкага лагера ваеннапалонных выстраілася вялікая чарга, можа, на кіламетр, з прадуктовымі перадачамі. Я падышоў і запытаўся ў пажылога латыша: "Чаму вы так любіце немцаў?" І ён патлумачыў: "Малады чалавек, што вас здзіўляе? Я былы латышскі стралок, вы, відаць, ведаеце, якую ролю мы адыгралі падчас рэвалюцыі. Калі б у 1940 годзе нас не акупаваў Савецкі Саюз, мы ваявалі б супраць Гітлера. Усяго за год савецкай акупацыі НКВД настроіў латышскі народ супраць Масквы".

**– Няўжо латышам пры немцах так добра жылося?**

– Не думаю, што вельмі добра. Але ж Рыга пасля вайны засталася цэлай – не параўнаеш з Мінскам. І нават у правінцыяльных гарадках, дзе я быў, усё заставалася цэлым. Так што ўсеагульнай радасці ад перамогі не было. На рыжскіх вуліцах я не заўважыў.

**– Да таго, як трапіць на фронт, вы партызанілі. А дзе было складаней ваяваць – у партызанах ці на фронце?**

– Вядома ж, на фронце. У раёне Маладзечна я быў цяжка паранены – падарваўся на міне. Яшчэ пашанцавала, што на маладзечанскай станцыі стаяў санітарны цягнік і мяне хутка адправілі ў шпіталь. Асколак міны трапіў мне ў правую палову грудзей.

**– А ў якіх мясцінах вы партызанілі?**

– Каля Днепра-Бугскага канала. Наша зона была паміж ракой Прыпяць і каналам. Мы таксама кантралявалі чыгунку Гомель–Брэст. Я быў разведчыкам, добра ведаў падыходы да чыгункі і хадзіў разам з падрыўнымі групамі.

## «Я быў у савецкіх партызанах…»

**– На Брэсцкім Палессі дзейнічалі не толькі савецкія партызаны. Мелі там свае зоны і Украінская паўстанцкая армія, і польская Армія Краёва. Якія ў вас былі з імі адносіны?**

– Да Курскай бітвы ў 1943 годзе з Украінскай паўстанцкай арміяй мы былі ў добрых адносінах. Трэба сказаць, што многія мае землякі на Брэстчыне падтрымлівалі УПА. Потым, калі мы злучыліся з Савецкай арміяй, я быў на Украіне – у Ровенскай і Валынскай абласцях. І бачыў, што вытварала НКВД. Калі забівалі кагосьці з УПА, кідалі яго цела пасярэдзіне вёскі на апазнанне. Скажыце, сэрца якой маці гэта вытрымае? Маці загалосіць – і палову вёскі, усіх сваякоў адразу арыштоўвалі...

У нашай брыгадзе быў атрад імя Тадэвуша Касцюшкі, ён меў выразна польскую арыентацыю. Калі ў 1943 годзе надышоў пералом у вайне, нам перадалі загад лічыць атрады Арміі Краёвай варожымі. І атрад імя Касцюшкі адразу пакінуў нашу брыгаду і перамясціўся кудысьці на Гродзеншчыну.

І яшчэ была адна праблема: у нашай мясцовасці адбываліся сутыкненні паміж "краёўцамі" і УПА. Здараліся і баі, многа славянскай крыві пралілося. Помню, у нас у брыгадзе два ксяндзы і многія палякі ратаваліся ад УПА. Трэба сказаць, што Армія Краёва ў Беларусі загубіла шмат бязвінных людзей – настаўнікаў, супрацоўнікаў цывільнай адміністрацыі. Паспрабавала рабіць зачысткі і ва Украіне, але там сустрэла рашучы адпор. Украінцы – гэта не беларусы памяркоўныя... А я быў у савецкіх партызанах – у брыгадзе імя Молатава.

**– Частка Брэстчыны пры немцах належала да рэйхскамісарыята Украіна. У сувязі з гэтым ці не было ў вас сутычак з УПА?**

– Не было, пакольки мы змагаліся супраць аднаго ворага. Ва УПА, праўда, ворагаў было два. Лозунг украінцаў гучаў так: "Бі гада-маскаля і тупалобага немца!". І ўсё ж тады яны ваявалі пераважна супраць немцаў і вызвалілі ад іх вялікую тэрыторыю. Таму Першы Украінскі фронт і прасунуўся так хутка да польскай мяжы. Між іншым, байцы УПА ў 1944 годзе смяротна паранілі савецкага генерала Ватуціна – каля Любяшова. Але пад Ковелем забілі і нямецкага генерала Віктара Лютцэ, асабістага сябра Гітлера. А немцы сапраўды былі тупалобымі палітыкамі. Скажам, яны арыштавалі Сцяпана Бандэру і да канца 1944 года пратрымалі яго ў канцлагеры. Ці ведаюць пра гэта ў Маскве, калі гавораць, што Бандэра – прыслужнік фашыстаў? Ніхто ўдзін расійскі аналітык, прызнаўшы ўсё ж факт знаходжання Бандэры ў нямецкім лагеры, сказаў, што яго там добра кармілі…

## «Цягам амаль двух гадоў Савецкі Саюз быў на баку фашысцкай Нямеччыны»

**– Для вас, заходняга беларуса, Другая сусветная пачалася ў верасні 1939-га. Што вам з таго часу запомнілася?**

– У нашу вёску на Драгічыншчыне Чырвоная армія прыйшла ўжо 20 верасня. Вызвольнікі вельмі ўразілі, што чырвонаармейцы былі галодныя, бегалі па хатах і прасілі хлеба і сала. Маці накарміла аднаго чырвонаармейца, а ён сказаў: "Вы нас так прыхільна сустракаеце, а мы вам прынеслі гора".

**– Нездарма потым з'явіўся такі каларытны народны праклён: "Каб цябе палякі захапілі, а Саветы вызвалілі!"**

– Ну так, а тады мы не зразумелі слоў чырвонаармейца. Глядзячы на тое галоднае войска, бацька дужа засмуціўся. Ён быў членам КПЗБ і гаварыў: "Бальшавікі не могуць быць галоднымі. Я быў у бежанстве ў цэнтральнай Расіі і ведаю, што адна Саратаўская губерня можа пракарміць палову Расіі". А яму адзін салдат, якраз з-пад Саратава, патлумачыў, што там у калгасах людзі галадаюць. Уся бацькава ідэалогія адразу рассыпалася... За няпоўныя два гады НКВД у Заходнюю Беларусь прынёс столькі гора, што ў 1941 годзе ўжо немцаў сустракалі ў некаторых вёсках з кветкамі...

**– Ведаю, што вы выдаўна пабывалі ў сталічным Музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. Падзяліцеся ўражаннямі.**

– У тым музеі паказана толькі палова вайны. Я памятаю стары музей, які размяшчаўся на Кастрычніцкай плошчы, то, здаецца, там было больш праўдзівых экспанатаў. У новым музеі я пагаварыў з кандыдатам гістарычных навук Валерыем Протчанкам, які там працуе, і спытаўся: чаму ў вас не паказана, як Сталін перад вайной распусціў кампартыі Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны, як ён загадзя рыхтаваўся да падпісання пагаднення з Гітлерам? Тады ж многія антыфашысты былі расстраляны ў падвалах НКВД. Пра Хатынь у музеі сказана. А пра Катынь? Хай бы змясцілі ў экспазіцыю рашэнне Палітбюро ЦК ВКП(б) пра расстрэл 25.000 палонных польскіх афіцэраў. Няма ў музеі і інфармацыі пра савецка-нямецкі парад у Брэсце ў 1939 годзе. А такія ж парады прайшлі і ў Гродне, і нават у Пінску. Дарэчы, удзельнік брэсцкага парада генерал Гудэрыян у 1930-я гады прыязджаў у СССР і вывучаў досвед Казанскай танкавай школы. Відаць, гэта пазней дапамагло яму паспяхова змагацца з савецкімі танкамі... Не забывайма і таго, што цягам амаль двух гадоў Савецкі Саюз быў на баку фашысцкай Нямеччыны. Дапамагаў ёй стратэгічнымі пастаўкамі…

На выхадзе з музея я сустрэўся з польскімі турыстамі і спытаўся пра іхнія ўражанні. Яны адказалі: "To muzeum klamstwa (Гэта музей хлусні)". Ну, я так не скажу, там ёсць і шмат добрых экспанатаў. Лепш будзе сказаць, што гэта музей напаўпраўды.

**– А дзе шукаць праўду пра вайну?**

– Праўда пра вайну – у дакументах, у творах Васіля Быкава. Як ён напісаў – так і было, а не так, як падавала і падае савецкая і постсавецкая прапаганда. Мае ўражанні пра вайну ў многім негатыўныя. На ёй было праліта столькі крыві! Савецкія камандзіры часта не беглі салдат, вышыні браліся крывёю. Неяк амерыканскі генерал Эйзенхаўэр спытаўся ў маршала Жукава: "Як вы праходзілі мінныя палі?" І Жукаў адказаў: "Мы спачатку пускалі пяхоту, а потым ужо – танкі". Вось такія адносіны ў Савецкай арміі былі да простых салдат. Быкаў і пра гэта напісаў. Увогуле, лепш за яго пра вайну не сказаў ніхто. А пра партызанку праўдзіва напісаў Алесь Адамовіч. Я чытаў яго аповесці, глядзеў фільм "Ідзі і глядзі", ён таксама праўдзіва зняты.

**– Вы прыгадалі Катынь, я чытаў вашу кнігу пра катынскую трагедыю. Скажыце, навошта было Сталіну расстрэльваць тысячы польскіх афіцэраў (а сярод іх былі і выхадцы з Заходняй Беларусі)? Яны ж маглі пазней уліцца ў армію генерала Андэрса і змагацца з гітлераўцамі.**

– На маю думку, Сталін вельмі не любіў палякаў, ён помніў ганебныя ўцёкі ў 1920 годзе ад войска Пілсудскага. Прывяду вам такі прыклад. Французскага генерала дэ Голя ў 1942-м у Маскве суправаджаў перакладчык з польскім прозвішчам. Сталін спытаўся: "Вы паляк?" – "Не, я француз у трэцім пакаленні". – "Паляк заўсёды застаецца палякам!" – сказаў са злосцю Сталін. Я лічу, што расстрэл у Катыні – вынік тае злосці. Нават Берыя быў супраць расстрэлаў і прапаноўваў выслаць палонных у Сібір. А калі немцы сталі пад Масквой, Сталін папрасіў 25 дывізій у Вялікабрытаніі. І Чэрчыль адказаў: "Дык у вас 200.000 польскіх ваеннапалонных. Вось і сфарміруйце з іх патрэбныя дывізіі". Ніхто яшчэ тады не ведаў пра Катынь... Сталін потым зразумеў сваю памылку, але было позна. А генерал Андэрс ацалеў толькі таму, што быў паранены. Яго доўга мучылі на Лубянцы, але не расстралялі.

## «На вяселлі хтосьці праз акно забіў нямецкага афіцэра, у выніку была расстраляна амаль уся вёска»

**– Неяк у "Народнай Волі" я толькі закрануў тэму вёсак, спаленых савецкімі партызанамі. Тут жа з розных куткоў Беларусі мы атрымалі шмат новых сведчанняў пра "геройствы" народных мсціўцаў. А ў вашым рэгіёне партызаны не ваявалі са сваім народам?**

– У адной з кніжак я напісаў пра такую вёску на беларуска-літоўскім памежжы – Канюхі. Партызаны, абвінаваціўшы вяскоўцаў у тым, што яны дапамагалі Арміі Краёвай, палілі хаты і 36 чалавек расстралялі. У нашай брыгадзе быў спецатрад, які займаўся падобнымі справамі. Скажам, у вёсцы Язвіны была забіта сям'я Салівончыкаў, у тым ліку двое дзяцей, толькі за тое, што галава сям'і працаваў пры немцах аграномам. Гэта рабілася з ведама камандавання. Партызаны з таго атрада расстралялі таксама аднаго ўкраінца, які хаваўся ад мабілізацыі ва УПА, западозрыўшы ў ім шпіёна. Партызаны таксама палявалі на солтысаў (вясковых старастаў), на настаўнікаў. Хоць вінь ці ні, як правіла, не было, пасля вайны шмат каго з іх асудзілі. Помніцца, мне напісаў былы староста з вёскі Хрысцінова Драгічынскага раёна, асуджаны на 15 гадоў. Прозвішча ягонае было Сукач. Ён прасіў, каб я пацвердзіў яго дапамогу партызанам. Што я і зрабіў. Камандзір нашага ўзвода таксама не застаўся безуважным да людскай бяды. І чалавека апраўдалі.

**– Існуе такое меркаванне, што партызаны правакавалі немцаў на карныя аперацыі ў вёсках. А вы як лічыце?**

– Такія правакацыі мелі месца. Мэта іх была – каб як мага больш людзей прыйшло ў партызаны. А да 1942 года актыўная партызанка не вялася. Раскажу вам адну гісторыю. У Іванаўскім раёне падчас вяселля быў забіты праз акно нямецкі афіцэр, які на ім прысутнічаў. Немцы аблажылі вёску. Людзі ім казалі: "Гэта правакацыя, мы ведаем, хто гэта зрабіў, мы самі яго знойдзем". А немцы ў адказ: "Чакайце загада з Пінска". І адтуль прыйшла каманда – усё вяселле расстраляць… Немцы чамусьці лёгка ваяліся на падобныя правакацыі.

**– Як падае гісторык Юрый Туронак, толькі ў адной Слонімскай акрузе партызанамі было спалена 40 беларускіх школ. А школы навошта палілі?**

– Гэта быў вельмі неразумны крок. На жаль, і мне давялося гэтым займацца. Нам тлумачылі, што немцы пры адступленні будуць у тых школах жыць... Помніцца, я сказаў свайму камандзіру, што гэта нейкая бязглуздзіца, бо немцы выганяць любую сям'ю з хаты і меццмуць прытулак. Навошта паліць школы? "Не твая справа!" – адказаў камандзір. Думаю, гэта быў загад кіраўніка Цэнтральнага партызанскага штаба Панамарэнкі. І школы палілі нават у такой глыбінцы, куды немцы ніколі не заходзілі. А калі настаўнікі не згаджаліся ісці ў лес, партызаны маглі іх расстраляць.

**– Але пра гэта не піша газета "Советская Белоруссия", пра гэта не расказвае БТ. Там напярэдадні 9 Мая – суцэльныя фанфары. Навошта вайна, як і за савецкім часам, міфалагізуецца?**

– Таму што для прапаганды патрэбны міфы, а не праўда. Вазьміце добра вядомую Зою Касмадзям'янскую. Яна была псіхічна хворай, пра гэта мне пад вялікім сакрэтам яшчэ ў 1960-я гады паведаміла прафесар псіхіятрыі Скугараўская. Хворую Касмадзям'янскую, якая яшчэ да вайны знаходзілася на ўліку ў псіхбальніцы, лютай зімою паслалі падпаліць хаты ў падмаскоўнай вёсцы Пятрышчава, дзе хаваліся ад холаду не толькі немцы, але і мірныя жыхары. Якія ўрэшце і затрымалі падпальшчыцу. Не немцы затрымалі, а вяскоўцы – як вар'яткупадпальшчыцу. Вось такая гераіня, але мы ўсе помнім, як яе праслаўляла савецкая прапаганда!

## «Крэмль спаганіў георгіеўскія стужкі, якія цяпер успрымаюцца як знакі агрэсіі»

**– На вуліцах беларускіх гарадоў часам можна сустрэць георгіеўскія стужкі, нягледзячы на тое, што ўлада іх у святочным аздабленні не выкарыстоўвае. Пра што гэта сведчыць?**

– Гэта сведчыць, наколькі моцна ўздзейнічае на нашых людзей навязлівая расійская прапаганда. Летась і мне такую стужачку хацелі пачапіць у нашым інстытуце. Я запярэчыў: "Не трэба. Дайце мне беларускую – чырвона-зялёную". І я адзін з беларускай хадзіў. Проста дзіву даешся, як Крэмль хоча падняць свой прэстыж стужачкамі, нарабіўшы столькі бяды сваёй агрэсіяй ва Украіне! Памятаю, ад адной старой верніцы мне давялося пачуць фразу: "Камуністы спаганілі царкву". Дык вось, на маю думку, Крэмль спаганіў і георгіеўскія стужкі, якія цяпер успрымаюцца як знакі расійскай агрэсіі.

**– Дзень Перамогі ў нас звычайна адзначаецца пампезна – з бравурнымі маршамі, з вайсковым парадам, у якім бяруць удзел ветэраны. Вы ж таксама маеце баявыя ўзнагароды – ордэн Айчыннай вайны І ступені, медалі "За баявыя заслугі" і "Партызану Вялікай Айчыннай вайны". Чаму вы не ўдзельнічаеце ў афіцыйных урачыстасцях?**

– А мяне на тыя парады ніхто ніколі не запрашаў. Арганізатары, мабыць, і не ведаюць пра маё існаванне, я ж звычайны ветэран, не генерал ці палкоўнік. Увогуле, я лічу, што ніякія парады не патрэбны. У свой час я быў у ЗША і спытаўся ў тамтэйшых ветэранаў, чаму яны не адзначаюць ні 8-га, ні 9 мая – як дні перамогі над гітлераўскай Германіяй? Чаму не адзначаюць перамогу над Японіяй? І мне амерыканскія ветэраны адказалі, што не хочуць быць падобнымі на дзікуноў, якія, страціўшы палову сваіх воінаў, скачуць ля пераможнага вогнішча. Вайна – бяда не толькі для тых, каго перамаглі, але і для тых, хто перамог. Нашы пампезныя святкаванні патрэбны таксама выключна для прапаганды. Вось кожны год гэтак званых "начных ваўкоў" не пускаюць у Польшчу, і Масква ламантуе. А для палякаў 50 пасляваенных гадоў – тое самае, што калісьці 150 у складзе Расійскай імперыі, гэта значыць – перыяд няволі і акупацыі.

## «Калі б не амерыканская тушонка і студэбекеры, што б мы рабілі?»

**– Вы прыгадалі "начных ваўкоў", якія беспярэшкодна раз'язджаюць па Беларусі і штогод спрабуюць прарвацца ў Польшчу і далей. Такое адчуванне, што Расія такім чынам навязвае заходнееўрапейскім краінам сваё бачанне і вайны, і перамогі.**

– Гэта расіянам не дае спакою імперскі сверб, сверб агрэсіі, сверб арды, якая прывыкла ісці напралом. Каб у той жа Заходняй Еўропе не забывалі – магчыма новая вайна. Беларусь жа павінна браць прыклад са Злучаных Штатаў Амерыкі, якія таксама вельмі вялікі ўнёсак зрабілі ў перамогу над фашызмам. Я памятаю, якія мы былі галодныя, кепска абмундзіраваныя. І калі б не амерыканская тушонка, што б мы рабілі? Ці абышліся б мы без студэбекераў, без амерыканскіх самалётаў ды іншай тэхнікі? Калі б Гітлер разграміў Вялікабрытанію, не было б плацдарма, адкуль амерыканцы дапамагалі Еўропе. А без ЗША ні Савецкі Саюз, ні Еўропа ў вайне не выстаялі б – гэта маё асабістае перакананне. Другая сусветная вайна была б прайграна. Дарэчы, у ЗША ветэраны ўлетку ходзяць у адмысловых кепках. І калі такі ветэран заходзіць у краму ці яшчэ куды-небудзь, усе адразу яго заўважаюць, стараюцца дапамагчы. І афіцэры яму казыраюць. Хай бы і ў Беларусі зрабілі такія адмысловыя ветэранскія шапкі. А то, скажам, у грамадскім транспарце часам і не прычакаеш, каб табе саступілі месца.

**– А пенсіі на жыццё вам хапае?**

– Скардзіцца не буду, хапае, нават унуку дапамагаю, у якога двое дзяцей. Я яму сказаў: "З'явіцца трэцяе дзіця – буду вам штомесяц 150 рублёў з пенсіі дапамагаць".

**– Вы знакаміты ўрач-гематолаг, доктар медыцыны, прафесар, ветэран вайны. Вы і ў 94 гады актыўны аўтар "Народнай Волі", пішаце свае мемуарна-публіцыстычныя, надзвычай актуальныя, кнігі. Дарэчы, колькі іх ужо выйшла ў свет?**

– Дзесяць. Я пачаў пісаць позна, пасля васьмідзесяці. Раней часу не хапала, працаваў урачом, пэўны час быў дырэктарам Беларускага навукова-даследчага інстытута гематалогіі і пералівання крыві. Цікавыя гісторыі са свайго жыцця часта расказваў у розных сяброўскіх кампаніях. Калі мяне пачуў наш вядомы фалькларыст і літаратуразнавец Арсень Ліс, то параіў: "А вы запісвайце і складайце ў папку". Я пачаў запісваць і складаць, і мяне гэта захапіла. Так і наскладаў – на 10 кніг. Можа, каму і не падабаецца, як і пра што я пішу. Мне калегі кажуць: "Іван Пятровіч, усе ветэраны пішуць пра вайну так, як трэба, а вы – па-свойму". Проста я ведаю гісторыю, прычым не толькі савецкую. Мае веды, мае перакананні і прымушаюць мяне пісаць праўдзіва.

ДЫЯГНАЗ

## Кожны пяты работнік у галіне медыцыны – пенсіянер

*Статыстыку агучыў старшыня Рэспубліканскага камітэта Беларускага прафсаюза работнікаў аховы здароўя **Роберт Часнойць**.*

У адным з інтэрв'ю ён адзначыў: *«У галіне працуе каля 20% пенсіянераў. Гэта наш залаты фонд. Вопытныя супрацоўнікі, якія не вычарпалі працоўны рэсурс і працягваюць развівацца, выдатныя ў ролі настаўнікаў. Тым, хто дасягнуў столі, трэба дзякаваць за працу і адпускаць на заслужаны адпачынак. Нельга ставіць пад пагрозу аказанне медыцынскай дапамогі насельніцтву. Калі спецыяліста няма кім замяніць, гэта правал у кадравай палітыцы. Рыхтаваць пераемнікаў – значыць забяспечыць прафесійную страхоўку. І планаваць на не год наперад, а мінімум на сем гадоў. Тады з кадрамі праблем не будзе".*

Але ж з кадрамі праблемы ёсць. Сёння літаральна на сайтах усіх рэгіянальных служб занятасці краіны мільгаюць аб'явы аб свабодных урачэбных вакансіях. Не хапае таксама медыцынскіх сясцёр. Медработнікі – самыя запатрабаваныя кадры па ўсёй Беларусі. Толькі Мінску, згодна з апошняй статыстыкай, патрабуецца 448 урачоў і 680 медсясцёр!

Цікава, што за апошнія 10 гадоў колькасць выпускнікоў медыцынскіх ВНУ краіны значна ўзрасла: у 2005 годзе дыпломы атрымалі 1600 студэнтаў, а ў 2018-м – 2899. А ўрачоў у краіне ўсё роўна не хапае.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

БУДЬ В КУРСЕ!

## Как изменится налоговое законодательство?

*Заместитель министра по налогам и сборам **Элла Селицкая** рассказала о наиболее значимых нововведениях.*

Так, в налоговом законодательстве вводится принцип презумпции добросовестности налогоплательщика, который означает, что пока налоговики не докажут документально, что гражданин совершил налоговое правонарушение, он будет считаться добросовестным.

*«Это основополагающий принцип, который сегодня закреплен в декрете №7, направленном на развитие предпринимательской деятельности, раскрепощение деловой инициативы в нашей стране»,* – отметила Элла Селицкая в интервью belta.by.

Новшества предусмотрены и в налоговом администрировании. Теперь белорусы смогут обращаться в любой налоговый орган, а не только по месту жительства. Правда, пока это коснется только физических лиц.

Еще один новый подход, по словам Селицкой, заключается в том, что в Налоговом кодексе прописаны положения, которые обеспечивают индексацию платежей в бюджет, если они уплачены несвоевременно.

*«Это пени. По действующему законодательству пеня начисляется с момента неисполнения налогового обязательства и до тех пор, пока деньги не поступили в бюджет. Бизнес инициировал предложения по совершенствованию начисления пеней. МНС проанализировало практику начисления, взыскания и согласилось с предложением, что излишнее административное бремя с плательщиков нужно убрать»,* – пояснила она.

Поэтому, по ее словам, в проекте общей части Налогового кодекса межведомственная рабочая группа предусмотрела, что размер пени не должен превышать сумму доначисленного налога (сбора).

Новой редакцией Налогового кодекса предусмотрено введение механизмов, которые позволят избегать ареста счетов плательщика при неисполнении налоговых обязательств. Их будут применять к добросовестным плательщикам, редко совершающих нарушения. Расходные операции не будут приостанавливаться, если плательщик предоставит документ, гарантирующий исполнение обязательств.

*«Это может быть договор, заключенный между налоговым органом и плательщиком о залоге имущества, либо договор плательщика с третьим лицом, который поручается за него уплатить налог, либо банковская гарантия»,* – дополнила Элла Селицкая.

Будет изменен и механизм блокировки счетов по текущей задолженности перед бюджетом. Так, предлагается: если накануне нарушения плательщик полгода своевременно исполнял налоговые обязательства, то приостановление операций будет происходить не ранее чем через 10 дней после наступления срока уплаты.

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

## Прыбіральшчыца са швабрай стала ў краме самай храбрай

У Магілёве тры мужчыны спрабавалі абрабаваць краму ніжняй бялізны (іх цікавілі бюстгальтары вялікіх памераў). Спачатку прадавачкі не маглі даць ім рады. Аднак калі ў спохватку ўвязалася бабуля-прыбіральшчыца, рабаўнікі кінуліся наўцёкі…

Прадавачкі – дзеўкі і жанкі –
Жорсткую зусім спазналі драму:
Нечакана тры рабаўнікі,
Тры грамілы, завіталі ў краму.
Дзіўна бачыць ім бандытаў тых:
Выручкі звычайна ў касе мала,
Бо брыльянтаў, рэчаў залатых
Крама жыхарам не прадавала.
Праўда, мела выбар неблагі
Ніжняе жаночае бялізны.
Хоць і не залазілі ў даўгі,
Ды з яе прыбытак не вялізны.
Зналі гэта і рабаўнікі,
І таму не рваліся да касы.
Ліфчыкі
(Прычым як гамакі!) –
Вось для іх набытак самы ласы.
(Так і не даўмеў уласны клёк,
Для чаго іх выбралі бандыты.
Можа, ў іхніх жонак і дзявок
Гэткія буйныя габарыты…)
Рушылі бандыты да паліц.
Перад гэтым гаркнуў
злыдзень хмуры:
– Не вішчаць! Усім лажыцца ніц!
А інакш перастраляем, куры…
Хоць і напалохаў той загад,
Ды не разгубіліся дзяўчаты.
Выручкі і так у іх няшмат,
Ну а тут наогул будуць страты.
Гэта дзесьці ў Францыі якой
Леглі б на падлогу прадавачкі
І гурмой захоўвалі б спакой,
Каб бандыт не выстраліў з гарачкі.
Не такія нашыя жанкі,
А тым болей дзеўкі-маладзіцы.
Разарваць гатовы на шматкі
Тых, хто апустошыў іх паліцы;
Тым, хто пасягнуў на іх рублі,
Могуць перагрызці нават глоткі!
Словам, у атаку перайшлі
Прадавачкі нашы, дзеўкі-цёткі.
Зброя іх – пазногці-кіпцюры.
Ды ў жанок не тыя ўсё-ткі сілы.
Расшпурлялі іх бандыты тры,
Бо не толькі з выгляду грамілы.
Відавочны спохваткі зыход,
Для жанчын чакалася параза,
І дырэктар прэмію за год,
Мусіць, ім не выдасць гэтым разам…
Згробшы ўсе бюстгальтары суздром,
Прыступілі злыдні да ўпакоўкі.
Але тут з анучай і вядром
Выйшла прыбіральшчыца з бакоўкі.
Баба Валя, як Напалеон,
Спохватку імгненна ацаніла:
Знемагаў "жаночы легіён"…
Ды на сілу ёсць другая сіла!
– Злыдні! Недаробкі! Вось я вам! –
Кінулася з мокраю анучай.
Стала ясна ім, рабаўнікам,
Што расправа будзе немінучай.
Кінулі бюстгальтары яны,
Выскачылі з крамы, быццам кулі!
І былі ў іх мокрымі штаны,
Як ануча грознае бабулі…
Хто б пра бабу Валю ведаў, каб
Не было той трыумфальнай бучы?
А цяпер другі ў жыцці этап –
Швабру ёй далі замест анучы.

* * *

Сёння ў нас куды ні завітай
(У бальніцы, рэстараны, крамы),
Трапіш на ахоўнікаў –
Бадай,
Кантынгент недружалюбны самы.
Ды хоць плечы ў іх накшталт сцяны,
Не заўжды сябе паводзяць храбра.
А навошта ўвогуле яны?
Досыць прыбіральшчыцы
са швабрай.

### У тым і шчасце

Што для шчасця трэба чалавеку?
Чалавек, бадай, тады шчаслівы,
Калі ён прыходзіць у аптэку,
Толькі каб купіць прэзерватывы…

### Зязюля і варона

Калі зязюля вам накукавала,
Дык гэтага бывае вельмі мала.
А будзе ўсё праўдзіва і законна,
Калі яшчэ накаркае й варона…

### Цікава, дык слухай…

Сустрэліся на вуліцы няўзнак.
– Не бачыліся век! Здароўе як?
– Пытаешся для блізіру?
– Ды ну!
– Тады, бадай, з аналізаў пачну…

### Па традыцыі

Зарастаюць сцежкі і паляны,
Ды герояў помніць наш народ…
Зладзілі былыя партызаны
У чарговы раз сустрэчу-злёт.
Выпілі яны за перамогу
(Прагучаў не толькі гэты тост),
Традыцыйна выйшлі на дарогу,
Узарвалі лінію і мост.

ТОЧКА ЗРЕНИЯ

## Дайте дорогу смелым

Ни для кого не секрет, что за время существования независимой Беларуси несменяемая власть, изначально имея царские полномочия, не справляется с решением многих задач. В то же время все попытки нынешней оппозиции воздействовать на власть от имени народа, едва начавшись, заканчивались конфузом. В шахматах, чтобы получить простой «киндермат», нужно четыре хода. Существует искусственная матовая позиция, для которой нужно сделать два хода. Просчитать свои действия на пару ходов вперед наша оппозиция элементарно не способна и всегда получает от власти мат после первого же хода.

Есть ли выход из нынешнего вроде бы безнадежного положения? Я верю, что есть. Для этого нужно перестать видеть в народе пассивный объект политики, который используется лишь в качестве самого весомого аргумента в уличной демократии. За дело должны взяться люди, способные превратить народ в активно и осмысленно действующий субъект повседневной политической жизни. Это позволит сформировать постоянно действующие обратные связи для оперативного регулирования экономических и политических процессов в обществе и вывести страну на высокий уровень развития.

Следует добиться в стране общественного согласия, не разделяя граждан на «чэсных» и «нячэсных» и не формируя из них «пятую колонну» и некие «легионы» и «фронты». Национальной идеей должен стать лозунг «Белорусы, давайте жить дружно!».

Тем, кто уверен, что это тяжело, трудно и невозможно, за это не надо и браться. Дайте дорогу смелым и уверенным в себе.

На дворе третье тысячелетие, и я верю, что такое возможно.

**Михаил ЗАПОЛЬСКИЙ.**

СКАЗАНО!



*Никто не должен быть умнее закона.*

**Аристотель, древнегреческий философ.**

УСМЕШКА МАСТАКА

## Беларусы павінны піць добрае віно, як у Еўропе




Нядаўна, падчас рэспубліканскага суботніка, Аляксандр Лукашэнка заявіў журналістам:

– *Нам трэба наш народ больш прывучаць да нармальных вінаў. Я не супраць, калі людзі 70–100 грамаў гарэлкі праз дзень выпіваюць. Але мы ж не ўмеем па 70–100 грамаў. Нам жа, калі сядзем, трэба літр заліць моцных напояў за адзін раз. А здароўя гэта не дадае. Таму трэба прывыкаць да еўрапейскага варыянту спажывання вінаў.*

Паводле слоў кіраўніка дзяржавы, нядаўна ён быў з візітам у Малдове і дэгуставаў мясцовыя напоі, якасць якіх моцна адрозніваецца ад прадукцыі, якую ўжываюць у Беларусі.

ПАМЯЦЬ

## Мужны, мудры, чалавечны

*Патрыёт нашай Бацькаўшчыны, прафесар, пісьменнік, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Якуба Коласа, заслужаны работнік вышэйшай школы, патрабавальны, пранклівы і далікатны, верны друг, дарадца – гэта ўсё ён,* ***Уладзімір Андрэевіч Калеснік.***

*У далёкім юнацтве, акрылены марай настаўнічаць, хлопчык з Сіняўскае Слабады, што ў Карэліцкім раёне, вучыўся ў Навагрудскім педвучылішчы. Ды ў радасную яву і мроі ўварвалася вайна. Пачалася арганізацыя падполля, а там і партызанскае змаганне з ворагам. Юны інтэлігент прайшоў суровую школу кулямётчыка, мінёра-падрыўніка, камандзіра ўзвода і начальніка штаба атрада, зведаў жахі блакады, страты баявых сяброў і каханай дзяўчыны, якая трапіла ў рукі акупантаў. Яна, Зіна Маслоўская, пасля трагедыі снілася партызану ў белым вэлюме нявесты.*

*Маладзенькі Валодзя, Андрыянаў сын, працягваў самаахвярна змагацца, помсціць ворагу за злачынствы на нашай зямлі; быў двойчы паранены. За заслугі перад Радзімай узнагароджаны ордэнамі "Знак Пашаны", Дружбы народаў, Вялікай Айчыннай вайны І ступені.*



Ён часта паўстае ў маёй памяці. Уладзімір Андрэевіч Калеснік, рэдкасна-цэльная асоба, інтэлектуальна абаяльны, аўтарытэтны педагог-прафесар, які свой гарманічны талент амаль 40 гадоў аддаваў кафедры беларускай літаратуры Брэсцкага педінстытута (цяпер універсітэта), мой незабыўны інстытуцкі і літаратурны Настаўнік з вялікай літары. Крытык, класік нацыянальнага літаратуразнаўства, празаік, чые творы: эсэ, літаратурныя партрэты, эцюды, успаміны, прадмовы да выданняў – надзвычай цікавыя і карысныя як студэнту, так і навукоўцу і краязнаўцу, проста інтэлігентнаму чалавеку, прагнаму да пазнання і хараства.

Вядома ж, гэта быў шчодры дарунак лёсу – адчуць гарачае няўрымслівае сэрца выкладчыка, улюбёнага ў Беларусь, яе прыроду, народ, мову, наблізіцца да яго магутнага філасофска-філалагічнага поля.

Ужо прозвішча падказвала, што род ягоны пайшоў ад майстравітага вяскоўца… І калі цёплай вераснёўскай раніцай (ішоў 1959 год) перад намі, шчаслівымі першакурснікамі, з'явілася ладная і самавітая постаць выкладчыка ў светлым касцюме, у чыстай выпрасаванай кашулі наросхрыст, каўнер якой быў акуратна выкладзены на пінжак, сэрца адчула: гэта – ЁН! Мы ўжо ведалі: Калеснік будзе нашым куратарам, што азначае ў перакладзе з лацінскай мовы – апекуном.

Пачалося знаёмства. Уладзімір Андрэевіч кожнага з нас распытваў, адкуль родам, з якой сям'і, чаму абраў педагагічную сцяжыну. Быў ён дужа ўважлівы, карыя пранікнёныя вочы, здавалася, бачылі ўсё, што ў тваім сэрцы, голас гучаў прыцішана ва ўнісон з цішынёю ў аўдыторыі і адметна-меладычна, як бы апраўдваючы рытміку імя і прозвішча. Ва ўдумлівым настаўніку адчувалася вялікая інтэлектуальная прастора, духоўная вышыня, запас трываласці.

Першыя ўражанні не падманулі. Тое, чым была прасякнута яго педагагічная дзейнасць і чым магічна ён уздзейнічаў на моладзь, называлася нацыянальнай ідэяй; ён з'яўляўся яе непахісным носьбітам і самаадданым праваднікам. Асветнік-гуманіст абуджаў у нас, студэнтах, пачуццё годнасці, любоў да літаратурна-мастацкай спадчыны Бацькаўшчыны, да яе мудрых і мужных сыноў і дачок, дэманстраваў сваю грамадзянскую пазіцыю і свой здаровы эстэтычны густ.

Педагог высокага прафесійнага рангу добра ведаў красу і сілу мастацкага слова, не прамямленага, а прамоўленага прыгожа, з пачуццём меры. Але галоўны яго клопат быў пра нацыянальную свядомасць будучых педагогаў і педагагінь, якіх у групе была абсалютная большасць. Аднойчы на чарговых занятках высветлілася: мала хто ведае пра паэта Валянціна Таўлая, – і куратар звярнуўся да дзяўчат: "О, галубіцы іарданскія, калі б такога паэта займелі грузіны, альбо ўзбекі, альбо яўрэі, як бы яны яго шанавалі!.."

Абуджаліся юныя душы ад сну, спакваля фарміравалася ў іх беларуская свядомасць, – прысутнасць Калесніка азначала ўплыў. Невыпадкова за ім і за літаратарамі, якіх кожны тыдзень ён склікаў у рэдакцыю абласной газеты "Заря", дзе чыталіся і абмяркоўваліся новыя творы, сачылі надта пільныя органы, падсылалі завербаванага "шпіка" ў ролі пачынаючага паэта…

Уладзімір Калеснік нястомна сілкаваў душы людзей, уздымаў іх, як сонца ўздымае ўсё жывое, даваў магчымасць адрываць вочы ад штодзённых клопатаў і пераносіцца ў высокі свет духоўнасці, мудрасці, хараства. І да студэнтаў, і да маладых і пачынаючых пісьменнікаў на сустрэчу запрашаў са сталіцы выдатных і знакамітых творцаў: Васіля Быкава, Янку Брыля, Максіма Танка, Уладзіміра Караткевіча, Аляксея Карпюка ды іншых, ладзіў дыспуты па іх новых творах.

Не магу абмінуць вядомы ў колах творчай інтэлігенцыі факт: калі Алесь Разанаў за збор подпісаў у абарону роднай мовы быў выключаны з Белдзяржуніверсітэта, ён знайшоў паратунак у Брэсце, а менавіта – у Калесніка, з чыёй думкай лічылася ўплывовае начальства. Дзякуючы Уладзіміру Андрэевічу Алесь прадоўжыў вучобу ў Брэсце. Як ён сам кажа, "літаральна на наступны дзень я ўжо меў месца ў студэнцкім інтэрнаце, а яшчэ праз нейкі час, пэўна, пасля ўзаемаўзгаднення інстанцый, і ў самім інстытуце".

Забягаючы наперад, скажу яшчэ пра такі незабыўны ўчынак. Да Міхася Рудкоўскага, якому ў Мінску зрабілі анкалагічную аперацыю, Уладзімір Андрэевіч тады не мог паехаць, але перадаў мне 25 рублёў, каб я праведаў Міхася. Я накупляў на тыя грошы розных прысмакаў, у тым ліку і чорнай ікры, і завёз нашаму сябру. Ён быў у цяжкім стане, але высакароднасць Калесніка яго парадавала і падбадзёрыла…

Я развітваўся з Брэстам у 1972 годзе. На развітальным вечары, які адбыўся па ініцыятыве Уладзіміра Андрэевіча і сябрыны найбольш актыўных тады літаратараў, ён, кіраўнік літаб'яднання, адчуў маё хваляванне, калі наблізіўся час майго ад'езду, падышоў да мяне, абняў рукою за плячо і пастараўся лагодна-жартаўлівым голасам супакоіць: "Ну што ты, не хвалюйся. Будзеш у Мінску тузом, а мы будзем прыязджаць да цябе…" У сталіцы ўтварылася выдавецтва "Мастацкая літаратура", куды я (пасля пасады літкансультанта ў "Знамени юности") быў прыняты М.Г.Ткачовым у аддзел, якім кіравала А.С.Васілевіч.

З Брэстчынай сувязі не перарываліся. Ездзіў на радзіму і ў Мінску сустракаў паэтаў-землякоў. Ліставаліся. Уладзіміра Андрэевіча стараўся залішне не турбаваць, але раз-два на год пасылаў лісток ці паштоўку разам з новымі вершамі. Ад яго атрымліваў лісты, поўныя ўвагі і цеплыні. Не ведаю, дзе бралася цярпенне, каб дэталёва разглядаць кожны верш. Лепшае з дасланага ён друкаваў у "Зары". Са мной настаўнік дзяліўся сваімі клопатамі, планамі. Вось радкі з ліста (20.12.1973): *"Выслаў я нарэшце рукапіс кніжкі артыкулаў, набралася 470 стар. машынкі, прыкладна трэцяя частка гэтага матэрыялу – яшчэ сырэц. Над ім думаю працаваць, пачынаючы з другой палавіны студзеня і аж да завяршэння справы. Цяпер сяджу над раздзелам да нашай агульнай кнігі* (гаворка пра кнігу "Я з вогненнай вёскі…". – **В.Ж.**). *Трэба яшчэ будзе парабіць здымкі. Работы – процьма, а з сіл ужо выбіўся. Дажыць бы да Новага года, а там, можа, лягчэй пойдуць справы"*. Перарываю таропкія радкі ліста, якія мне нагадалі лінію высокага напружання, каб звярнуць увагу чытача: у лісце гаворыць творца, але маўчыць выкладчык установы, дзе яму штодня быў забяспечаны фронт асноўных абавязкаў. Тут было перадавая, дзе ішло змаганне за годнасць новых і новых пакаленняў настаўнікаў. Пры гэтым прывычна цягнуўся воз грамадскіх нагрузак. Якіх высілкаў патрабавала кіраванне літаб'яднаннем Брэстчыны! Далейшыя радкі з ліста акурат і выяўляюць яго жывую заклапочанасць лёсамі літаратараў. Найперш – горкай долечкай Ніны Мацяш (пасля катастрофы, у якой загінула сястра Люба, яна, пакалечаная, трапіла ў шпіталь у горадзе Бярозе): *"Ніна папраўляецца, але канчатковае выздараўленне яшчэ не скора, праляжыць некалькі месяцаў. Цяпер, натуральна, яна сябе вельмі блага адчувае маральна, хочацца нейкіх звестак са знешняга свету, ад людзей. І не ведаю, як туды выбрацца, столькі тут работы. Трэба напісаць хоць ліста, як казаў нябожчык Засім"*. Далей – пра новую аповесць С.Курылёвай, а яшчэ – добры водгук на публікацыю маіх і М.Рудкоўскага вершаў у "Полымі". А ў канцы – *"прывет усім сябрам і знаёмым, а тваёй шэфіні і Палтаран – персанальна"*. Ён заўсёды быў гатовы сустракацца, сябраваць сем'ямі, пра што красамоўна сведчаць такія канцоўкі лістоў: *"Прывітанне тваёй гаспадыні. Будзеце ў Брэсце – заходзьце як дахаты"; "Рады будзем бачыць Цябе і Тваіх у нашай хаце"; "Бывай, не забывай, заходзь…"* І асобна, і разам з жонкаю, і з сябрамі заходзіў у яго гасцінную кватэру. Пабываў мой Настаўнік і ў мяне – разам з Алесем Каско і Уладзімірам Ягоўдзікам: дарагія мне пісьменнікі віншавалі мяне з першым юбілеем.

Пры ўдумліва-крытычным поглядзе на рэчаіснасць яму, нястомнаму духоўнаму лідару, карцела бачыць станоўчае і нават нешта ідэальнае ў суайчынніках, у сем'ях, найперш – у сваіх былых вучнях. І ён знаходзіў элемент ідэальнага, словам педагога падтрымліваў і заахвочваў яго.У адным з віншавальных лістоў на мой адрас ён заўважыў: *"Прыемна ўспамінаюць студэнты сустрэчу з Табою, Твае вершы і запаветы. Я рады, што Табе ўдалося не толькі захаваць творчы плацдарм у сталіцы, але стварыць у сваёй хаце культ беларускага слова, звычаю, духоўнай культуры… Шчасця Тваёй хаце. Ул. Калеснік"*. Над усім тэкстам датаванне: 31.12.1987, Брэст.

Некалькі апошніх гадоў пісьменнік цяжка хварэў, але працаваў над галоўнай кнігай свайго жыцця – "Доўг памяці". Яна яркая, спавядальная, балючая. І – гранічна праўдзівая. Скажам, яе галоўны герой паўстае супраць групы дэсантнікаў, якія разлагаліся маральна і былі на мяжы злачынства, адкрыта выступае з суровай крытыкай подлага кар'ерыста камбрыга Ключко. У кнізе У.А.Калеснік пашанотна сплачвае доўг бацькам, сялянам-працаўнікам, каханай дзяўчыне, юнакам і дзяўчатам, якія ў пекле вайны баранілі Бацькаўшчыну і гінулі за яе.

Уладзімір Андрэевіч да апошняга дня заставаўся мужным і чалавечным. Як успамінала яго ўдава Зося Міхайлаўна, ён хваляваўся за яе, пытаўся: "Зося, як ты будзеш жыць адна?" Яшчэ распавядала яна пра яго развітальна-суцяшальную запіску, напісаную на шпітальным ложку: *"Мілая Зося! Дажывай спакойна. Я люблю Цябе. І буду любіць, трапіўшы ў пекла, буду радавацца, што Ты недзе ў раі, па заслугах, і няма Табе роўных"*.

**Васіль ЖУКОВІЧ.**

ИХ СТАНДАРТ

# На выборах в Британии депутат победил с перевесом в один голос

## Причем итоги выборов пересчитывали четыре (!) раза!

На местных выборах в городе Харлоу, графство Эссекс, победителем объявили консерватора Майкла Хардвера.

Как сообщает BBC, в ночь выборов на избирательном участке Харлоу царило огромное напряжение – голоса пересчитывали четыре раза, ведь не могли поверить, что победитель оторвался только на один голос.

Майкл Хардвер, который победил своего оппонента от лейбористов, утверждает, что это была одна из самых напряженных ночей в его жизни.

*«После первого подсчета я проиграл с разницей в два голоса, следующий перерасчет показал мою победу с преимуществом в один голос, еще два пересчета показали, что я победил с перевесом в один голос»*, – комментирует политик.

Напомним, накануне в Великобритании состоялись выборы в местные советы. Консервативная партия во главе с премьер-министром Великобритании Терезой Мэй получила лучший результат, чем ожидалось.



*На фото: Кандидаты и представители партий ожидают результат четвертого пересчета голосов.*

Фото: BBC.

ВОКРУГ СВЕТА

## Где в Европе нет АЭС?

*Пять государств производят более 80 процентов атомной энергии в Европейском Союзе.*

*Таковы данные Европейского статистического ведомства.*

Франция оказалась крупнейшим производителем атомной энергии в ЕС – ее доля составляла в 2016 году 48%.

Далее идут Германия (10%), Великобритания (8,5%), Швеция (7,5%) и Испания (7%).

В целом в 2016 году АЭС стран – членов ЕС произвели 839,7 гигаватт-часа. Другими словами, АЭС сгенерировали почти 26% электроэнергии, производимой в ЕС в 2016 году.

В 2016 году ядерные реакторы действовали в 14 государствах ЕС: Бельгии, Болгарии, Чехии, Германии, Испании, Франции, Венгрии, Нидерландах, Румынии, Словении, Словакии, Финляндии, Швеции и Британии. Еще в 14 странах Евросоюза нет АЭС.

В целом с 1990-го по 2016 год большинство государств – членов ЕС увеличили производство атомной энергии. Хотя между 2004-м и 2016 годами наблюдался спад в производстве атомной энергии на 17%.

## В июне на Балтике пройдет серия учений НАТО

*С 3 по 15 июня в Литве, Польше, Эстонии и Латвии состоятся международные учения Saber Strike, в которых примут участие 18 тысяч военных из 19 стран НАТО и партнеров Североатлантического альянса.*

Для участия в этих учениях из Германии в Латвию через Чехию, Польшу и Литву будут отправлены около 1100 единиц военной техники США, сообщает ERR.

В Литву эта техника по двум маршрутам прибудет через так называемый Сувалкский коридор – участок границы Литвы и Польши шириной в 100 км, который на западе граничит с Калининградской областью России, а на востоке – с Республикой Беларусь.

В это же время в Литве пройдут национальные учения «Молния Перкунаса», в которых примут участие до 9 тысяч военных, а также учения «Твердый кобальт» в Каунасском районе.

Кроме того, в июне начнутся учения Baltops в Балтийском море.

НА ДАЛОНЯХ ВЕЧНАСЦІ

Уладзімір ЯГОЎДЗІК



# Белавежская пушча

На зямлі ёсць нямала цудоўных тварэнняў прыроды, якія сталі сімваламі цэлых краін. Напрыклад, гара Фудзі ў далёкай Японіі. У суседняй Расіі – рака Волга. А возера Балатон адразу нагадвае пра Венгрыю.

Сімвалам жа нашай Беларусі з'яўляецца Белавежская пушча – бадай, самы вялікі і стары лясны абшар у цэнтральнай Еўропе, дзе захаваліся амаль у некранутым стане і гонкія, аж да воблакаў, бары, і магутныя векавыя дубровы, і светлыя бярозавыя гаі, і змрочныя нават у сонечныя дні яловыя нетры.

Восем стагоддзяў назад у глухіх навакольных мясцінах гаспадарыла ваяўнічае непакорнае племя яцвягаў. Яцвягі былі спрактыкаваныя паляўнічыя, збіралі з борцяў пчаліны мёд. Але яны не выстаялі перад націскам галіцка-валынскіх, кіеўскіх ды полацкіх князёў, рассяліся сярод іншых народаў. І Белавежу пачалі называць зубрынай краінаю, багатай на птушак і звяроў. Сюды штогод наведваліся каранаваныя асобы з гасцямі і незлічонымі світамі. Здаралася – не толькі дзеля паляўнічых уцех і турніраў.

Так, зімою 1410 года некалькі месяцаў не сціхала тут рэха паляўнічых рагоў, раздаваліся рыкі і стогны параненай дзічыны. Дружыннікі вялікага князя літоўскага Вітаўта і караля польскага Ягайлы здабылі тады сотні ласёў, дзікоў і зуброў. Потым іх мясам, засоленым у бочках, падмацоўвалася беларуска-польскія харугвы, якія 15 ліпеня 1410 года ўшчэнт разбілі на Грунвальдскім полі захопнікаў-крыжакоў Тэўтонскага ордэна. Значыць, пушча таксама спрычынілася да слаўнай перамогі.

Міналі гады, і ўсё часцей і часцей здараліся выпадкі, што сведчылі пра бяздумную людскую жорсткасць да прыроды і яе безабаронных дзяцей.

Спачатку з пушчанскіх сакавітых лугоў назаўсёды зніклі крутарогія асілкі туры. За імі да апошняй галавы былі выбіты алені. А крывавая бойня не спынялася, наадварот, з удасканаленнем зброі набывала ўсё большы і большы размах.

Восенню 1752 года кароль Аўгуст ІІІ разам з сынамі, адпачываючы ў Белавежы, знішчылі (а як яшчэ інакш назавеш падобнае геройства?!) ажно 42 зубры, 13 ласёў і 2 казулі.

Аляксандр ІІ разам з прыбліжанымі да яго імператарскай персоны за два дні – 6 і 7 кастрычніка 1860 года – умярцвілі (вось дакладнае слова!) у цесных загонах з паляўнічых вышак 28 зуброў і 68 галоў іншай дзічыны.

Не дзіўна, што ўжо ў XIX стагоддзі Белавежская пушча засталася без дзікіх коней тарпанаў, без мядзведзяў і ланяў. І ў рэшце рэшт 9 лютага 1919 года ад рукі забойцы Барталамея Шпаковіча загінула апошняя зубрыца, якая жыла на волі. Напэўна, зусім звёўся б зубрыны род, каб некаторых волатаў не трымалі ў звярынцах. У 1946 годзе іх прывезлі ў Белавежу, на спрадвечную радзіму.

І зубрыны статак адрадзіўся, цяпер ён у нашай беларускай частцы пушчы налічвае каля 300 жывёлін.

Не, недарэмна хуткаплынны час у Белавежскай пушчы спыніўся, каб сівая мінуўшчына сустрэлася з днём сённяшнім і заўтрашнім. Тут наяве трапляеш у казку, легенду, паданне. Тут святлееш душою, дабрэеш сэрцам, зноў пачынаеш верыць у неспакойны чалавечы розум. Нам пад сілу захаваць гэты цудоўны разнастайны свет для будучых пакаленняў людзей. Кожны раз, бываючы ў пушчы, я, быццам замову, шапчу радкі з верша Ларысы Геніюш:

*У Белавежу ўвайшла, нібы ў храм.*
*Стромкіх дрэваў маўчаць калоны.*
*На кары каля шраму шрам,*
*Бы счарнелі старыя іконы.*
*Кроплі смольныя, нібы перлы.*
*Кроны купал неба падперлі.*
*Зубр на мох, бы ягнё, прылёг*
*Ля бярозаў у белай адзежы.*
*Калі недзе існуе Бог,*
*Тут ён, пэўна, у Белавежы.*



НУ И НУ!

## В Норвегии построили общественный туалет за 2 миллиона долларов

*Самый красивый и романтичный туалет в мире откроется 22 мая 2018 года, сообщает Forbes Staff.*

В Норвегии на национальной туристической дороге Хельгеландскюстен протяженностью 433 км, которая включает 6 паромных переправ, в местечке Уреддплассен устроили смотровую площадку с видом на Норвежское море и Лофотенские острова. Проект разработали архитекторы Марит Юстине Хауген и Дэн Зохар. Доминантой архитектурного комплекса стал общественный туалет.

Волнообразная форма сооружения, мягкая подсветка, скамьи из розового норвежского мрамора, лестница, ведущая к самой кромке воды, – все эти элементы конструкции туалета (стоимость проекта – 2 млн долларов) гармонируют с окружающим ландшафтом.

СТИЛЬ ЖИЗНИ

## На Мальдивах за 15 миллионов долларов строят подводную виллу в коралле

*Первые обитатели подводного люкса смогут заплыть на Рождество 2018 года.*

На курорте Conrad Maldives Rangali Island подходит к завершению строительство первой подводной виллы. На курорте уже 13 лет действует подводный ресторан Ithaa, теперь клиенты, как пассажиры подлодки или космонавты на орбите, увеличивают свой срок пребывания: под водой теперь не просто ужинают, но и ночуют.

Подводный номер представляет собой двухъярусную конструкцию, состоящую из надводной и подводной частей. Подводная часть номера опущена на 5-метровую глубину, поэтому постояльцы смогут беспрерывно наслаждаться морскими пейзажами.

РЕЙТИНГ

## Финляндию признали страной с самым чистым воздухом в мире

*Здесь самое лучшее в мире качество воздуха.*

*Об этом свидетельствуют данные Всемирной организации здравоохранения, сообщает Yle.*

Содержание микрочастиц пыли в Финляндии в среднем составляет 6 микрограммов на кубический метр, что является самым низким показателем в мире.

Рядом с Финляндией по чистоте воздуха расположились Эстония, Швеция, Норвегия и Исландия.

Хуже всего дела с качеством воздуха обстоят в Уганде, Монголии, Катаре и Камеруне.

Всемирная организация здравоохранения проводила исследования в период с 2008-го по 2016 год в 100 странах мира.

АТЫ-БАТЫ

## Одна армия на всю Европу

*Президент Европарламента Антонио Таяни выступил за создание единой европейской армии.*

По мнению Таяни, ЕС должен делать больше для совместной обороны и безопасности.

*«Нельзя иметь общую внешнюю политику без общей стратегии в сфере обороны»*, – считает президент Европарламента.

*«Европа в долгосрочной перспективе нуждается в собственной армии. Для этого нужно время, это не произойдет уже завтра. Сегодня в ЕС 28, скоро будет 27 армий, всё они делают более-менее одинаково»*, – отметил он.

По словам Таяни, усиление сотрудничества в этой сфере позволит значительно сэкономить и быть «активнее и сильнее на международной арене».

Пару дней назад Еврокомиссия представила проект бюджета ЕС на 2021–2027 годы. Согласно документу, его объем будет увеличен до 1279 млрд евро. Бюджет нынешней семилетки составляет 1087 млрд евро.

ВПЕЧАТЛЕНИЯ

*В силу семейных обстоятельств мне немало времени довелось провести в Канаде. Не думаю, что многие белорусы имеют такую возможность. А потому хочу поделиться впечатлениями об этой далекой стране с читателями «Народной Воли».*

# В Стране кленового листа

### Лучше сто лет переговоров, чем один день войны

Причиной возникновения в 1867 году государства Канада стал его величество случай. В результате семилетней войны с Францией Британская империя захватила ее колонию в Северной Америке – Новую Францию. Проиграв войну, Франция вынуждена была уступить Англии Квебек с прилегающими территориями в обмен на право сохранить в своем владении Гваделупу.

Была создана страна из различных территорий и неоднородных, случайно собранных групп населения разных национальностей, культур, убеждений, вероисповедания. Случайный эксперимент оказался весьма успешным. Граждане Канады научились жить вместе, преодолевать разногласия, разрешать все вопросы мирно, действуя по принципу: лучше сто лет переговоров, чем один день войны.

На протяжении 150 лет здесь не происходило серьезных потрясений. В течение шести лет Канада не опускалась ниже второго места по качеству жизни (включая окружающую среду), уровню развития экономики, безопасности проживания.



### Нравы, обычаи, уклад жизни

С первых дней знакомства с Канадой в глаза бросаются целеустремленность, работоспособность, деловитость, здоровый образ жизни, бережное отношение к природе ее граждан. Здесь много спортивных сооружений: теннисных кортов, полей для игры в гольф, велосипедных дорожек, хоккейных площадок, которыми пользуются и взрослые, и дети. Многие предпочитают интенсивную ходьбу, пешие прогулки, бег, водный спорт, экскурсии.

Города утопают в зелени. Повсюду красивейшие композиции из цветов: на клумбах, в вазонах, подвешенных парами на специальных стойках и фонарных столбах, на площадях, рынках, набережных, у производственных и офисных зданий, в многочисленных парках, на обочинах дорог. Земля вокруг посадок укрыта специальной мелкой щепой, окрашенной в разные цвета. Это придает особый колорит композициям, помогает сохранить влагу и держать почву в рыхлом состоянии.

Здесь широко распространены мероприятия, напоминающие наши субботники, только проводятся они не по приказу администрации, а по инициативе горожан. К примеру, одна из жительниц посчитала, что территория, прилегающая к домам микрорайона, недостаточно ухожена. Она садится за компьютер, красиво оформляет красочную листовку, в которой обращается к соседям с предложением в следующие выходные под деревьями возле тротуара разбить клумбы, посадить цветы или соорудить японские горки. Размножает листовку и вручает пофамильно. Как правило, уклоняющихся не бывает. Люди с инструментом, в рабочей форме дружно наводят красоту. А затем ее заботливо поддерживают.

Чтобы в Канаде достойно жить, надо много и трудно работать, не надеясь на вэлфер (так называется государственная помощь, пособие малоимущим, неработающим, попавшим в трудное положение людям), помощь в поиске работы, переквалификации. Все это за счет налогоплательщиков. Если сказать, что в Канаде люди много работают, то для оценки работы фермера это мало о чем говорит. По рассказу одного нашего Героя Социалистического Труда, проходившего стажировку на канадской ферме, как он ни старался встать раньше хозяина, так ему это и не удалось. Тот или уже трудился на тракторе, или сидел с калькулятором в руках и прорабатывал многочисленные ситуации, чтобы отыскать наиболее выгодный экономический вариант своей деятельности. Но стажер решил во что бы то ни стало переиграть куратора, надеясь, что у него все же сил побольше, чем у пожилого человека, и трудился не покладая рук, невзирая на перегрузки и усталость. В конце срока стажировки, подводя итоги, владелец фермы удостоил его словами:

– А ты молодец, парень, работал, почти как я.

### В атмосфере доброжелательности

Что особенно бросается в глаза – это высокая культура, воспитанность людей, доброжелательность во взаимоотношениях, терпимость к другим взглядам, вкусам, привычкам. Не видел здесь хмурых лиц. И это заметно везде: в общественных местах, в учреждениях, на улицах, в сфере обслуживания. В Канаде незнакомые люди с улыбкой приветствуют друг друга, вежливы, предупредительны, легко вступают в разговор. Было непривычно и неловко, когда не только мужчины, но и женщины – молодые и средних лет – уступали дорогу при входе в магазин, на улице, говорили комплименты. За полгода пребывания в Канаде ни разу не видел пьяных или ругающихся людей. С доброжелательной улыбкой вас внимательно выслушают, профессионально проконсультируют, помогут подобрать нужный товар. И так везде.

В торговых центрах много товаров для дома. Огромный выбор ручной мини-техники и устройств для уборки и ремонта квартиры, работы на даче, в саду, цветнике, для обработки почвы. Тысячи наименований стройматериалов, утеплителей, металлоконструкций, режущих, пилящих, строгающих, шлифующих, полирующих инструментов и прочих приспособлений и устройств. Очень надежная упаковка промышленных и пищевых изделий. Все это мы привыкли называть мелочами. А ведь все большое состоит из малого.

В каждом городе большое количество торговых центров с парковкой (обычно бесплатной) для сотен, а иногда и тысячи машин. Удивляют размеры торговых центров и магазинов. Многие из них занимают по несколько гектаров. Очередей в нашем понятии нет. Ассортимент продаваемой продукции широчайший. В одном из небольших городов в винном магазине представлена алкогольная продукция почти из всех стран мира на любой вкус, включая водку и другие алкогольные напитки из Беларуси. Несмотря на такое обилие спиртного, за полугодие пребывания в Канаде я не видел пьяных.

За шесть месяцев не увидел полицейских, фланирующих по улицам, как и военных. Здесь нет воинской повинности. Службу в армии несут контрактники, в повседневной жизни они заняты своим делом где-то в казармах или на полигонах.

Канадцы очень законопослушны. Они могут быть недовольны законом, возмущаться, высказывать свое недовольство. Но исполнение закона для канадца закон! Они как бы негласно подтверждают изречение древних: плох или хорош закон, но он подлежит исполнению.

Жители Страны кленового листа очень уважительно относятся к своему прошлому, сохраняют историю страны, ее культуру, обычаи. Везде: в магазинах, офисах, рядом с ними, на фермах – расположены натуральные артефакты прежних веков: стрелы, луки, древние изделия, огнестрельное оружие, мельницы, плуги, тракторы, автомобили, паровозы, вагоны, хранящие на себе следы времени. Очень богаты экспонатами государственные музеи.

### Продуманность, оригинальность, рациональность

Все, что предстоит сделать или делается, здесь заранее глубоко продумывается, просчитывается, обосновывается. Такого ЧП, как городская улица, разрытая через неделю-другую после асфальтирования, вы не увидите.

Обращает на себя внимание широко развитая система благотворительности и волонтерства – участие в добровольной бесплатной работе. Это просто неотъемлемая часть жизни канадца. Еще с давних времен люди должны были отдавать десятую часть своих доходов церкви. Это делается и сегодня. Канадцы вносят деньги на благотворительные цели. Многие люди бесплатно работают в свое свободное время.

(Окончание на 6-й стр.)

Народная Воля http://www.nv-online.info
8 МАЯ 2018 г.

ПОДЫУМ

# Марыя ВАСІЛЕВІЧ: «Буду несці гэты тытул з годнасцю!»

*Пераможцай нацыянальнага конкурсу прыгажосці «Міс Беларусь – 2018» стала 20-гадовая студэнтка БДЭУ Марыя Васілевіч з Мінска.*



Яна будзе прадстаўляць краіну на конкурсе «Міс свету» сёлета, а таксама ўдзельнічаць у розных культурных, дабрачынных акцыях у Беларусі і за яе межамі.

Акрамя кароны з белага золата, упрыгожанай каштоўнымі камянямі, Марыя Васілевіч атрымала спецыяльныя прызы, у тым ліку пазадарожнік Geely Atlas.

*«Дзякую ўсім за віншаванні!* – сказала праз сацыяльныя сеткі ўсім сваім прыхільнікам Марыя пасля конкурсу. – *Вашы цёплыя словы - самая галоўная ўзнагарода для мяне. Яшчэ раз хацела б выказаць словы ўдзячнасці ўсім, хто прыклаў руку да стварэння гэтай казкі! Вы не проста выдатная каманда прафесіяналаў сваёй справы, але яшчэ і самыя добрыя і спагадлівыя людзі. Дзякуй Вам за вашу працу!*

*І, вядома, дзякую ўсім дзяўчынкам-фіналісткам. Мы вялікія малайцы: прайшоўшы такі няпросты шлях, мы сталі амаль роднымі людзьмі. Дзякуй Вам за шчырасць!*

*Я абяцаю, што прыкладу максімум намаганняў, каб апраўдаць аказаны мне давер, і буду несці гэты тытул з годнасцю!»*

Першай віцэ-міс стала 22-гадовая **Маргарыта Мартынава** са Слоніма (Гродзенская вобласць), яна атрымала права прадстаўляць Беларусь на конкурсе «Міс Супранэшнл». Другой віцэ-міс журы назвала 18-гадовую мінчанку **Анастасію Лаўрынчук.**

ТЫМ ЧАСАМ

# Анастасія ГУБАРЭВІЧ: «Я спадзявалася на перамогу, але разумела, што мне яе не дадуць…»

*У сацыяльных сетках называюць Міс Беларусь зусім іншую дзяўчыну – падчарку вядомага спартсмена Аляксандра Глеба* ***Насту Губарэвіч****.*

На старонцы ў яе «Інстаграме» – вельмі шмат каментарыяў пра тое, што менавіта яна была самай прыгожай дзяўчынай у фінале конкурсу.

Аднак пры гэтым Наста не стала пераможцай ні ў адной з намінацый.

*«Гэтыя тры тыдні былі вельмі важнымі для мяне, хвалюючымі,* – шчыра пракаментавала ў «Інстаграме» Наста свой пралёт у фінале конкурсу. – *У мяне з'явілася такая падтрымка з боку прыхільнікаў, я пачула столькі прыемных слоў, якія ўсялілі ўпэўненасць і веру, што я магу годна выступіць і апынуцца пераможцай у адной з намінацый! На сцэне я амаль не хвалявалася, а імкнулася атрымліваць задавальненне ад гэтага незабыўнага працэсу. Адчувала вялікую падтрымку залы, што выклікала ў мяне пэўную ўпэўненасць. Напэўна, гэта быў не мой дзень! Я разумела, што мая персона будзе выклікаць пільную ўвагу ва ўсіх, бо ў мяне асаблівы і легендарны, мною вельмі любімы айчым, які для мяне як тата! Таму ў душы я спадзявалася на перамогу, але разумела, што мне яе не дадуць. Лічыла, што гэты факт мне перашкодзіць, але не чакала, што настолькі моцна!*

*Падчарка Глеба не завяявала ніводнага тытула! Але нічога! Я атрымліваю столькі цёплых слоў падтрымкі ў свой адрас, ад якіх слёзы самі ліюцца з вачэй! І вось гэта для мяне самае каштоўнае! Дзякуй вам усім, усіх вельмі люблю!»*

Наста праз сацыяльныя сеткі атрымлівае сотні слоў падтрымкі, многія раяць ёй не вешаць нос і паспрабаваць свае сілы на больш маштабных і больш адэкватных конкурсах.

**Аліна ВЕТРАВА.**

ШАШКІ

## Па просьбе чытачоў

Наш актыўны чытач **Фёдар Карпей** з Мядзела заўважыў, што ў аддзеле "Шашкі" даўно не праводзіліся конкурсы, а гэта аслабляе цікавасць да гульні, пазбаўляе прыхільнікаў шашак магчымасці праверыць і паказаць сваё майстэрства. Дзякуем нашаму паважанаму чытачу за заўвагу і аб'яўляем чарговы бліц-конкурс.

Пазіцыі для першых двух заданняў прапануе **Генадзь Андрэеў** (Латвія).



№1 **Белыя**: b4, c1, c5, d6, f4, g3, g5, h6 (8).
**Чорныя**: a3, b2, b8, c7, d8, e5, h2 (7).

№2 **Белыя**: a3, b6, c1, d2, d4, e3, g1, g3, h4 (9).
**Чорныя**: a7, b2, b4, b8, c5, f6, h6, h8 (8).

Наступныя заданні належаць мінчаніну **Валерыю Свізінскаму**.

№3 **Белыя**: b2, c1, c3, d2, d4, e3, e5, g5 (8).
**Чорныя**: a3, b6, b8, e7, f6, f8, g7, h4 (8).

№4 **Белыя**: a3, d2, d4, e3, g5, h2, h4 (7).
**Чорныя**: b6, c7, d6, e7, f4, f6, h6 (7).

№5 **Белыя**: a3, b2, b4, c1, c5, d4, f2, g1, h2 (9).
**Чорныя**: a7, b6, c7, d6, e3, e7, g5, g7, h4 (9).

Ва ўсіх заданнях белыя пачынаюць і выйграюць.

## Школа кампазіцыі

**Юрый Голікаў** з расійскага горада Цвер даслаў такую праблему:

№6 **Белыя**: b4, c1, d2, e3, e5, e7, f4, g1, h2 (9).
**Чорныя**: a3, b6, c5, c7, d6, d8, g3, g7, h4, h8 (10).
f6(g3:e5), d4(f6), g3, f4, e3, d4, a7(b6), g7, d2 x.

Вядучы рубрыкі прапануе наступным чынам паправіць пачатковую расстаноўку:

№7 **Белыя**: b2, b4, c1, d2, d4, e3, f4, f6, g5 (9).
**Чорныя**: a3, b6, c5, c7, d6, d8, g7, h8 (8).
e7(h4), g5, f4, bc3, d4…

Трэба адзначыць, што дынаміка гульні крыху пабяднела.

## Прапануюць пастаянныя аўтары

Далей прапануем творы нашых актыўных карэспандэнтаў.

**Генадзь Андрэеў** (Латвія) прапануе праблему ў бразільскія шашкі.

№8 **Белыя**: b2, b4, b6, c1, c5, g5, h2 (7).
**Чорныя**: b8, d4, e3, f2, f4, h6 (6).
g3(f6), d2(a3-пр.), e7, d8 x.

У праблеме **Азіза Бердара** з Пецярбурга белыя пачынаюць і робяць нічыю.

№9 **Белыя**: e1, e3, f2, g1, g5, h2 (6).
**Чорныя**: b4, c3, c5, c7, d4, g7 (6).
f6, fg3, d2, f2, b8 (d4), c7 – І.Кузняцоў, 1926 г. (ант.1–13) – (a3), a5(g3**A**), d8(c3), f6(ab2), h4(h2), e1 = **A**(b2), b6(c3), a5 =.

У наступнай мініяцюры піцерца заданне звычайнае – выйгрыш белых.

№10 **Белыя**: d6, e7, g1, g3, h6 (5).
**Чорныя**: b2, b4, c5, d2, e3, f8 (6).
g7, f4, f8, e3(f4), g5, f2 x.

**Іван Івацка** з украінскага горада Вінніца прапануе кампазіцыі ў міжнародныя шашкі.

№11 **Белыя**: 11, 16, 17, 19, 23, 24 (6).
**Чорныя**: 1, 9, 22, 25, 28, 32, 39 (7).
6, 7, 20, 10, 4(14), 1(12), 13, 12 x.

№12 **Белыя**: 14, 21, 23, 28, 32, 34, 40, 46 (8).
**Чорныя**: 11, 12, 18, 24, 31, 37, 41, 43 (8).
30, 9, 17, 3, 38, 48 x.

## Супаставім рашэнні

"НВ" ад 30 студзеня 2018 года. Гэта і быў бліц-конкурс.

№7 – fe5, d6, f2(e5), e3(h6), b8(f4), g5, g3, f2 x.

№8 – g7, b8, h2, b8, c3 x.

№9 – f8(c:g7), a3(f4**A**), c1, c7, h6(d4) f8(e5), g7 x **A**(e5), c7(d6), f8, g7 x.

Перамог у конкурсе **Уладзімір Бандарык** (в. Лугавая Слабада Мінскага раёна).

Дакладныя адказы даслалі: **Аляксандра Камінская** (Вілейка)**, Юрый Голікаў** (Цвер, Расія), **Эдуард Дамброўскі, Віталь Варушыла**, **Іван Наўроцкі** (Мінск), **Аляксандр Шурпін** (Івянец), **Уладзімір Бандарык** (в. Лугавая Слабада Мінскага раёна), **Мікалай Зайцаў** (Баранавічы), **Рыгор Краўцоў** (в.Рублёўск Круглянскага раёна), **Уладзімір Валчкоў** (Маладзечна), **Леанід Жыхар, Фёдар Карпей** (Мядзел), **Ігар Ананіч** (Гродна), **Уладзімір Панько** (Камянец).

Дзякуем за лісты і спадзяёмся на вашу далейшую актыўнасць.

Свае лісты дасылайце на адрас:
***220030 Мінск, вул. Энгельса, 34а, "Шашкі"***
або на электронны адрас рэдакцыі:
***saf20016@yandex.ru, shulga.checkers@gmail.com.***

**Віктар ШУЛЬГА, міжнародны майстар спорту па шашачнай кампазіцыі.**

ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ

# На дне?

Пытальнік, пастаўлены ў загалоўку, абумоўлены бягучым выступленнем нацыянальнай хакейнай зборнай на чэмпіянаце свету ў Даніі.




Гадоў дваццаць таму хакей у нашай краіне быў названы спортам нумар адзін. Ім захапіўся прэзідэнт Нацыянальнага Алімпійскага камітэта Аляксандр Лукашэнка. Дзяржаўныя сродкі моцным патокам былі скіраваны на развіццё гэтага віду спорту.

Колькі пісана-перапісана пра лядовыя арэны, якія бесперапынна будуюцца ў Беларусі і ўтрыманне якіх, дарэчы, каштуе немалых грошай!

Таксама нагналі аскому разважанні аб высокіх заробках хакеістаў. Усім, здаецца, усё даўно вядома. Дарэчы, новапрызначаны старшыня Федэрацыі хакея Беларусі Сямён Шапіра на першай жа пасля прызначэння прэс-канферэнцыі сказаў наступнае:

*"Так, канечне, гэтыя грошы вышэй, чым сярэднія зарплаты па краіне. І вельмі многія людзі, якія не ведаюць спецыфікі хакея і вельмі далёкія ад гэтага, не разумеюць, што гэта не такія ўжо вялікія грошы.*

*Бо бацькі гэтых хлопцаў-хакеістаў 10 гадоў вазілі за імі баулы з экіпіроўкай, ездзілі з імі на спаборніцтвы, трацілі на гэта свае грошы (а гэта ад 500 да 1000 долараў за камплект). Яны ўклалі ў развіццё гэтага хакеіста велічэзныя грошы. Гэтыя хлопцы кладуцца пад шайбу, гуляюць ад 50 да 90 матчаў за год, праводзяць паўжыцця ў аўтобусе, вельмі многія потым маюць вялікія праблемы са здароўем. Таму, калі мы гаворым пра заробак у 2 тысячы долараў, паверце, гэта ў разы меней, чым было ўчора і пазаўчора і прыкметна меней, чым у многіх іншых лігах".*

Я не збіраюся спрачацца з Сямёнам Барысавічам, заўважу толькі, што насіць хакейныя баулы за сваімі дзецьмі і ўкладваць у хакейную амуніцыю ўласныя грошы – свядомы выбар бацькоў. І нічый больш.

Што ж да заробку ў 2000 долараў, які і сапраўды меншы, чым у хакеістаў іншых, часцяком больш заможных краін, то гэтую суму можна было запраста падзяліць паміж любым беларускім хакеістам і, скажам, урачом "хуткай дапамогі", які таксама паўжыцця праводзіць у аўтатранспарце і кожны дзень ратуе чыісьці жыцці…

Але Бог з імі, са справядлівасцю і здаровым сэнсам! Укладвайце ў хакей столькі, колькі лічыце патрэбным, але дайце вынік.

А яго няма.

На матчы зборнай Беларусі і каманд, якія гулялі ў нацыянальным першынстве, я рэгулярна хадзіў якраз тады, гадоў дваццаць таму. Напэўна, і заробкі ў хакеістаў пакалення Эдуарда Занкаўца, Андрэя Скабелкі, Андрэя Кавалёва, Сяргея Стася, Сяргея Ярковіча, Аляксандра Андрыеўскага, нябожчыка Вітара Карачуна і іншых сапраўдных майстроў былі не такія завоблачныя. Але тады быў вынік. Так, на Алімпійскім турніры ў Нагана ў 1998-м нашы спартсмены, як той казаў, у адны вароты "вынеслі" французаў – 4:0 і немцаў – 8:2…

Прайшло два дзясяткі гадоў. За гэты час хакейная зборная Германіі дасягнула свайго лепшага выніку ў гісторыі, стаўшы сярэбраным прызёрам Алімпіяды, а літаральна тры дні таму тыя ж французы не пакінулі каменя на камені ад беларускай дружыны.

Пра што гэта сведчыць? На мой, безумоўна, суб'ектыўны погляд, гэта можа сведчыць толькі пра адно: хакейная сістэма, пабудаваная ў Беларусі за гэты час, проста вялікая мыльная бурбалка. За гэты час у краіне не выраслі нават пяць-сем ігракоў, якія сталі б сапраўднымі лідарамі нацыянальнай каманды. І гэта нягледзячы на тое, што бацькі самаахвярна ў свой час цягалі за імі цяжкія баулы. Мы пайшлі іншым шляхам – "узнагародзілі" беларускімі пашпартамі замежных хакеістаў, апранулі іх у чырвона-зялёную форму і чакаем ад іх цуду, якога няма.

Нарэшце і галоўны трэнер зборнай Беларусі Дэйв Льюіс, які перад кожным мінулым чэмпіянатам свету вёз каманду "змагацца за медалі", прызнаў відавочны факт: у нас няма крамы, дзе можна купіць майстроў…

А цяпер звернемся да статыстыкі выступлення зборнай Беларусі на апошніх чэмпіянатах свету: з 2011-га па 2013 год беларусы займалі 14-е месца, ледзьледзь застаючыся ў эліце сусветнага хакея. У 2015-м быў выхад у ¼ фіналу, два мінулыя гады мы фінішавалі на 12–13 месцах, перамагаючы ў дзвюх з сямі гульняў. Ці варта ўкладваць сродкі ў хакеістаў, якія выйграюць значна радзей, чым прайграюць, – пытанне рытарычнае.

Сёлета над беларускай зборнай, як ніколі востра, стаіць пытанне аб захаванні месца ў групе мацнейшых. Мы ганебна прайгралі французскай зборнай, дарэчы, адной з прамых нашых канкурэнтак у барацьбе за захаванне месца ў эліце. З такой якасцю гульні, якую паказалі беларусы, верагоднасць падання ў ніжэйшы дывізіён найвялікшая.

У нашай зборнай ёсць, канечне, яшчэ шанец даказаць, што ў хакей гуляюць сапраўдныя мужчыны, але крамы, дзе прадаюцца хакейныя майстры, у Капенгагене, як высветлілася, няма.

Так што самі, толькі самі…

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

ВЕДАЙ НАШЫХ!

# Беларускі – лепшыя!

*У топ-100 рэйтынгу WTA ўвайшлі адразу чатыры беларускія тэнісісткі.*

Арына Сабаленка займае 46-е месца, Аляксандра Сасновіч – 58-е, Вера Лапко – 92-е (узнялася з 111-га), а Вікторыя Азаранка знаходзіцца на 98-м радку.

У першай дзясятцы змен за тыдзень не адбылося. Першае месца сусветнага рэйтынгу займае Сімона Халеп з Румыніі, на другім – Каралін Вазняцкі з Даніі, на трэцім – іспанка Гарбіньe Мугуруса.

ПОЗИЦИЯ

# Чемпионату мира по футболу в России объявят бойкот?

*Президент Украины Петр Порошенко считает, что каждая страна должна принять решение относительно уровня участия в чемпионате мира по футболу, который летом состоится в России.*

Об этом он заявил в интервью немецкому изданию Focus, которое в своем Twitter разместил посол Украины в Германии Андрей Мельник.

Порошенко назвал чемпионат *«чистым инструментом пропаганды для отбеливания очень черной картины России».*

*«Он не имеет ничего общего со спортом, а только с геополитикой. Каждый должен решить, поедет он туда или нет»,* – отметил украинский президент.

Напомним, глава МИД Украины Павел Климкин призвал мир бойкотировать ЧМ-2018 в России.

Исландские чиновники не будут посещать Россию по случаю чемпионата мира по футболу, а также решили отказаться от всех контактов высокого уровня с представителями РФ.

Кроме того, уже 60 евродепутатов призывают правительства ЕС не посещать чемпионат мира по футболу в России.



**Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.**
**Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.**
**Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.**
**nvonlineinfo@gmail.com http://www.nv-online.info**

**Падпісныя індэксы:**
**63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,**
**632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ**




Паколькі ў рэдакцыі няма магчымасці рэцэнзаваць і вяртаць нявыкарыстаныя матэрыялы, яна пакідае права ўступаць у перапіску за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 07.05.2018 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 23 105 экз. Заказ № 1610.